

**Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

# ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 10 (4759) 7 сакавіка 2014 г.**



# 24.02.1935 — 2.03.2014

Памёр Рыгор Барадулін.

Тры словы, якія здаваліся неверагоднымі, хоць усе ведалі, што паэт часта хварэе, што сілы ў яго ўжо не тыя, не маладыя гады. Але што такое хваробы і ўзрост, калі гаворка ідзе пра Барадуліна!..

Так здавалася.

Ён памёр. Народны паэт Беларусі. Але што такое званні, калі яго творы ведаюць, яго Слова гучыць, яго імя стала сімвалам чалавечай годнасці!

Кожную краіну аберагаюць яе паэты. Яны нібыта ствараюць нябачную абалонку — і вершамі, як замовамі, адганяюць бяду. Рыгор Барадулін сам быў такім абярэгам. Усе оды і прысяганні дарэмныя цяпер, калі галоўнае — Памяць.

Паэт не раз пісаў пра зямлю, пра апошні свой прыстанак, і цень труны не палохаў яго. Не баючыся вечнасці, ён ведаў здаўна: «Мне ясным сонцам лёс наканаваны — не ведаць змрочных лёхаў нематы». А значыць, і ў вечнасці будзе гучаць голас Барадуліна, яго малітва за Беларусь.

Там, у выраі, у які ён верыў, яны ўсе ізноў разам: Караткевіч, Быкаў, Барадулін… Цэлае пакаленне творцаў, якія ўмелі не толькі нараджаць высокія словы, але і захоўваць вернасць — сябру, зямлі, свайму народу.

Рыгор Барадулін, як крывіцкі асілак, трымаў на сваіх плячах неба, і калі ён лёг спачываць у родную ўшацкую зямлю, цяжар прыціснуў долу ўсіх нас. Што рабіць?

Дзядзька Рыгор пасміхнуўся б і сказаў проста: жывіце. Прычым — сэрцам, як і пажадаў ён беларускай моладзі ў свой апошні дзень народзін.

***

*Чалавек не ўзнікае так —*
*Ён збываецца, адбываецца*
*Як ратай,*
*Як дзівак,*
*Як мастак,*
*Ад якога свет адбіваецца.*
*Чалавек не знікае так,*
*Бы ў кішэні вякоў пятак.*
*Ён сціраецца аб дарогі,*
*Разбіваецца аб адчаі,*
*Пераходзіць ва ўсе трывогі*
*Веку,*
*Што яго прыручае.*
*Перш чым вочы заслоняць векам,*
*Чалавек хоча стаць чалавекам.*

**Калектыў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва»**

*Фота Яўгена Коктыша*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ў сувязі з яго смерцю. «Творчасць Рыгора Барадуліна займае асаблівае месца ў айчыннай культуры. У яго вершах і паэмах знайшлі сваё адлюстраванне багаты духоўны свет народа і агульначалавечыя філасофскія і маральныя пытанні», — гаворыцца ў спачуванні. «Упэўнены, што памяць пра Рыгора Барадуліна як аднаго з вядомых майстроў слова захаваецца ў сэрцах аматараў беларускай літаратуры», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Кіраўнік дзяржавы выказаў спачуванні родным і калегам заслужанага архітэктара Беларусі Леаніда Левіна ў сувязі са смерцю вядомага творцы і грамадскага дзеяча — аднаго з аўтараў дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу «Хатынь», старшыні Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, лаўрэата Ленінскай прэміі, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Галіну Талкачову. «Усё Ваша жыццё непарыўна звязана з Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Ваша творчасць складае адну з яркіх старонак у летапісе сучаснага беларускага тэатра і хвалюе сэрцы гледачоў розных пакаленняў».

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў заслужанага артыста Расійскай Федэрацыі Барыса Маісеева з 60-годдзем, падкрэсліўшы, што ў Беларусі жывуць тысячы прыхільнікаў артыста, якія высока цэняць творчасць знакамітага земляка. «Упэўнены, што ваша дзейнасць і ў далейшым будзе спрыяць умацаванню культурных сувязей паміж народамі нашых краін», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ За асаблівыя дасягненні ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў, навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі, сацыяльна-культурным развіцці і ў сувязі з 50-годдзем з дня заснавання Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту інфарматыкі і радыёэлектронікі прысуджаны Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь.

✔ Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Анатоля Тозіка адбылося пасяджэнне пастаянна дзеючага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»), якое ладзіцца ў аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна. Сёлета свята запланавана на 5 — 6 ліпеня і пройдзе пад дэвізам «Днепр — рака дружбы».

✔ Фотавыстаўку «5 гадоў — 5 візітаў», прысвечаную памяці былога прэзідэнта Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла Уга Чавеса, можна ўбачыць да 23 сакавіка ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Мерапрыемства ладзіцца з нагоды першай гадавіны з дня смерці камандантэ ў межах міжнароднай кампаніі «Па слядах Чавеса».

✔ Вядомы савецкі і літоўскі акцёр тэатра і кіно Юозас Будрайціс прадставіў у Віцебску выстаўку фатаграфій, зробленых ім на здымках фільмаў. Экспазіцыя «Маё кіно. 1970 — 1990 гады» размясцілася ў музеі Марка Шагала, дзе адбылася творчая сустрэча з аўтарам. Віцебск стаў другім горадам Беларусі пасля Мінска, дзе акцёр прадставіў свае работы.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА

# Мера таленту

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падвяло вынікі творчай дзейнасці за 2013 год і вызначыла перспектывы.**




*Намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Смалянка гутарыць пра творчыя набыткі з пісьменніцамі Галінай Нічыпаровіч і Таццянай Атрошанка.*

— Галоўная мэта пісьменнікаў — зрабіць сваю працу карыснай для грамадства. Гэта магчыма, калі ў творах чытач убачыць не толькі сённяшнія рэаліі, але і гісторыка-культурныя здабыткі, калі духоўнасць стане найвышэйшай мерай таленту, — падкрэсліў у сваёй прамове старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктар — галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Летась літаратары Мінскай вобласці выдалі больш як 40 кніг, выйшаў з друку альманах «Міншчына літаратурная», а да 70-годдзя Вялікай Перамогі рыхтуецца зборнік з творамі ваенна-патрыятычнай тэматыкі пад умоўнай назвай «Радзіма. Адзінства. Перамога». А. Карлюкевіч адзначыў і іншыя станоўчыя моманты ў працы літаратараў: зварот да разнажанравых твораў — ад гістарычнай прозы і краязнаўчай літаратуры да драматычных твораў і кніг для дзяцей.

Былі закранутыя і пэўныя праблемы. Сярод іх — цяжкасці з выданнем новых кніг, адсутнасць сустрэчнага руху з боку сістэмы адукацыі, а таксама якасць некаторых твораў.

— Трэба імкнуцца шырэй прадстаўляць айчынную літаратуру за межамі Беларусі. Важна прывіваць культуру чытання сённяшняй моладзі, — слушна адзначыў Алесь Карлюкевіч.

Канкрэтныя прапановы ўнеслі ўдзельнікі сходу, адна з якіх — правесці ў 2014 годзе акцыю «Кніга ад пісьменніка ў бібліятэку для чытача» з мэтай папоўніць фонды раённых бібліятэк творамі беларускіх літаратараў. Прадоўжыцца актыўнае супрацоўніцтва з ваеннымі, пагранічнікамі, сустрэчы з юнымі чытачамі ў школах і гімназіях. Не будзе абдзелена ўвагай творчая моладзь, якая робіць першыя крокі ў літаратуры.

У працы сходу ўзялі ўдзел і станоўча ацанілі дзейнасць Мінскага абласнога аддзялення СПБ намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама Таццяна Хмель, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў.

Па выніках працы медалі Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру» атрымалі члены аддзялення Наталля Голубева, Леанід Крыванос, Павел Жукаў. Ганаровымі граматамі за плённую літаратурную працу, актыўны ўдзел у жыцці СПБ адзначаны Анатоль Смалянка, Рагнед Малахоўскі, Уладзімір Грозаў. За поспехі ў літаратуры, актыўную літаратурна-асветніцкую, грамадскую работу і супрацоўніцтва з РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» шэраг пісьменнікаў узнагароджаны ганаровымі граматамі і дыпломамі СПБ: Алесь Аляшкевіч, Барыс Далгатовіч, Лідзія Адамовіч, Зіновій Прыгодзіч. Членскія білеты СПБ атрымалі Уладзімір Цанунін, Іван Ярашэвіч.

Таццяна ШЫМУК

# Паласаты рэйс з Паднябеснай

**Кітайскі тыгр, цар звяроў і гаспадар лесу, стаў госцем мінскага Палаца мастацтва. Жывёла, якая сімвалізуе сілу і мужнасць, не збегла з заапарку, а «пасялілася» на палотнах двух кітайскіх мастакоў. У экспазіцыю ўвайшлі працы Ао Тэ, «караля» ў маляванні тыграў, і Ван Юйгэня, які ўмела спалучае ў сваіх карцінах абстракцыянізм і рэалізм.**

Наведвальнікі выстаўкі адкрылі для сябе свет дзівоснай прыроды, філасофіі, душы народа, аддаленага ад Беларусі геаграфічна, але блізкага ёй па духу. «Жывучы на адной планеце, але на вялікай адлегласці, праз карціны мы можам адкрываць для сябе прасторы іншых краін. Кітай стаў на дзіва зразумелым беларускім гледачам. Усё таму, што творы кітайскіх мастакоў пранізвае шчырая любоў да сваёй зямлі, яе жыхароў і гісторыі», — распавёў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. Творчыя стасункі паміж Беларуссю і Кітаем, на яго думку, — гэта ўзаемаўзбагачэнне, якое ідзе на карысць абедзвюм дзяржавам.

На карцінах мастака Ао Тэ можна было ўбачыць вобразы драпежніка, які ў кітайскай міфалогіі з'яўляецца сімвалам супярэчлівых пачуццяў і яркіх характараў: справядлівасці, мудрасці, адвагі, воінскай доблесці, нястрымнай сілы, страсцей і шчасця. Работы майстра ўпрыгожваюць будынак Парламента Кітая, урадавай рэзідэнцыі «Чжуннаньхай» і дзяржаўнай рэзідэнцыі «Дзяоюйтай». З Беларуссю мастака звязваюць самыя цёплыя і добрыя стасункі. Адна з яго работ захоўваецца ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Кітаі. Два гады таму Ао Тэ падарыў Дзяржаўнаму літаратурнаму музею імя Янкі Купалы намаляваныя ім партрэты беларускіх класікаў — Якуба Коласа і Янкі Купалы.

Другі мастак, Ван Юйгэнь, — таксама вельмі цікавая асоба. Майстар адрозніваецца глыбокім веданнем традыцыйнай кітайскай культуры, з'яўляецца прадстаўніком ЮНЕСКА ў Кітаі, прарэктарам кітайскай Акадэміі жывапісу і каліграфіі.

Выстаўка, якая прайшла ў Палацы мастацтваў, спрыяла ўмацаванню сяброўскіх адносін паміж Беларуссю і Кітаем, якія паспяхова развіваюцца на працягу 20 гадоў, дазволіла дзвюм краінам не зважаць на адлегласці.

Паводле першага намесніка міністра культуры Беларусі Уладзіміра Карачэўскага, дзяржавы актыўна супрацоўнічаюць не толькі ў сферы эканомікі. Беларусь і Кітай арганізуюць сумесныя культурныя форумы, праекты, мерапрыемствы. Так, абмен днямі культуры паміж краінамі праводзіцца з 1993 года, а іх праграма з кожным разам становіцца ўсё больш насычанай і цікавай.

Падчас выстаўкі для ўсіх жадаючых адбыўся майстар-клас ад аўтараў карцін. Так, Ао Тэ ўладкаваўся за сталом, а наведвальнікі, сабраўшыся вакол яго ў вялікае кола, змаглі паназіраць за працэсам стварэння працы — ад першых мазкоў да ўжо «апранутага» ў колер і форму твора.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў і рэдакцыя кітайскага часопіса «Форум Азіі».

Імпрэза мела вялікі грамадскі рэзананс. У цырымоніі адкрыцця ўзяў удзел вядомы кітайскі калекцыянер і дзеяч мастацтва Ліу Гуанцын, які арганізаваў у Беларусі звыш 10 выставак кітайскіх мастакоў. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі і Міністэрства замежных спраў нашай краіны, вядомыя культурныя дзеячы і маладыя аматары мастацтва.

Марыя ВОЙЦІК

# Новая «Новая зямля»

**Нямала выданняў «Новай зямлі» пабачыла свет пачынаючы з 1923 года. Але такога каляровага і яскравага, здаецца, яшчэ не было. Гэтым разам ілюстрацыі да «энцыклапедыі жыцця беларускага сялянства» рабіў народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч.**

Прэзентацыя адбылася ў музеі Якуба Коласа. Васіль Пятровіч — прызнаны майстар кніжнай графікі, таму не дзіўна, што выданне атрымалася такім прывабным. Чаму менавіта яно? Творца прызнаўся: «На схіле жыцця адчуваеш настальгію па дзяцінстве, і гэта падштурхоўвае вярнуцца да яго ў душы, у думках, у творчасці».

В. Шаранговіч успамінае: «Раптам трапіла мне ў рукі кніжка — «Новая зямля» Якуба Коласа. Дагэтуль ні я, ні маці не ведалі ні пра Янку Купалу, ні пра Якуба Коласа. Як і ўсялякую новую кніжку, я пачаў з захапленнем чытаць «Новую зямлю». І захапленне тое было незвычайным і непадробным. Гэта ж пра нас!»

Новае выданне пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» да 75-годдзя народнага мастака Беларусі. Віншавалі Васіля Пятровіча дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Зінаіда Камароўская, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, літаратуразнавец, гісторык Адам Мальдзіс, пісьменнікі Анатоль Бутэвіч і Віктар Шніп, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Вакалістка гурта «У нескладовае» Кацярына Поцюс і навучэнцы гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка прывіталі мастака музычнымі нумарамі.

У той жа дзень у музеі Якуба Коласа адкрылася выстаўка «Малюнкі родныя і з'явы...», дзе прадстаўлены выданні «Новай зямлі», якія пабачылі свет пры жыцці пісьменніка, яго фотаздымкі і рукапісы, а таксама ілюстрацыі Васіля Шаранговіча да паэмы. Пасля прэзентацыі і шматлікіх віншаванняў выстраілася цэлая чарга па кнігу. Не меншая чарга была і да Васіля Пятровіча: дарылі кветкі, казалі добрыя словы, прасілі аўтограф.

Марыя ГАЛУБЦОВА

# «Пакуль жыву, датуль малюся Беларусі…»

**Спыніўся зямны адлік народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.**

Наш горад Гродна Рыгор Іванавіч любіў, прыязджаў на сустрэчы з аднадумцамі, кожны раз даваў спадзеў на не апошняе спатканне. Тут — радзіма ягонай жонкі Валянціны Міхайлаўны, тут у далёкім 1962 годзе нарадзілася ягоная дачка Ілона, тут адбылася першая сустрэча з Васілём Быкавым, калі малады паэт прыехаў да празаіка па апавяданні, рыхтуючы літаратурную старонку ў газеце «Советская Белоруссия».

Рыгор Барадулін — паэт яркага, на дзіва шматграннага таленту з непадробнай пячаткай майстра, дзе годна бруіць пачуццё нацыянальнага генетычнага кода, дзе паразумеліся талент і шанаванне ўсяго беларускага, крывіцкага. Яшчэ на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя крытыка распазнала ў ім арыгінальнага паэта. Барадулін-чарадзей, няўрымслівы ахвярнік пакінуў больш як 70 душэўна ўтрапёных і хвалюючых, самабытных і неардынарных зборнікаў лірыкі, гумару, сатыры, вершаў для дзяцей, перакладаў, кнігі эсэ і ўспамінаў, ліставання і аўтографаў, кнігу рукапісаў.

Барадулінская паэзія — гэта сапраўднае свята, навеянае творчым духам, існасцю, неўтаймаванай непасрэднасцю, а не скрупулёзным веданнем законаў мастацкай творчасці. Гэта трэба ўмець — напісаць «некананізаваныя ўспаміны» і кнігі вясёлых вершаў, спавядальна-ачышчальную кнігу «Ксты» і казытліва-гарэзлівую «Дуліну ад Барадуліна». Кажучы словамі самога паэта, «расток радка, галінка верша». Як сапраўдны талент ён адчуваў сябе свабодна і ў шумнацечнай плыні крытычнага слова (кніга артыкулаў і эсэ «Парастак радка, галінка верша» (1987), кніга артыкулаў і некананізаваных успамінаў «Аратай, які пасвіць аблокі» (1995)). Паэтава муза жывілася з уласна перажытага, з плёну асэнсаванага і ацэненага. «У мяне паўвыходзілі ўсе, / Праз мяне павыходзілі моўчкі».

Шматдаравальная любоў да маці, да мовы, да Бацькаўшчыны, да кожнай жывой істоты, да жыцця як дарунку Божага — ці не ў іх крыўся аптымізм паганскага гарту? «Бо радавод наш памяць зберагае, / Бяспамяцце гадуе жабрака. / З вякамі роўная, як з берагамі, / Плыць будзе / Беларускасці рака!» У храме барадулінскай паэзіі былі тры святыні: Маці, Мова, Беларусь. Пад гэтым трохзор'ем вывяралася на жывучасць кожнае паэтава слова.

Родная ўшацкая зямля прыняла паэта-сына, якога пахавалі побач з мамай. Хай будзе неспатольная душа яго пад міласэрнай апекаю Усявышняга, каб сагрэць душу Беларусі: яна згубіла Барадуліна, але ніколі не згубіць барадулінскую спадчыну, паэтаў запавет зберагчы «святам свянцонае беларускае слова».

**Аліна САБУЦЬ,**
**дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага паэта Беларусі Рыгора Іванавіча БАРАДУЛІНА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў выдавецтва «Мастацкая літаратура» смуткуе ў сувязі са смерцю свайго былога супрацоўніка, народнага паэта Беларусі Рыгора Іванавіча БАРАДУЛІНА і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## Памяці Рыгора Барадуліна

*А нітачка трымцела у цішы*
*Ды трапятала*
*і звінела, тонкая.*
*Пакуль не ўпалі*
*долу ледзяшы,*
*Парушыўшы вясны*
*архітэктоніку.*

*І там,*
*дзе тлелі чадныя снягі,*
*Вясновай цеплынёю*
*змардаваныя,*
*Як па вадзе,*
*жалобныя кругі*
*Расходзяцца ў бакі*
*мерыдыянамі.*

*Аркестр грыміць.*
*Заходзіцца струна.*
*Жвір зяе драбязою лазурытавай.*
*І сходзіць,*
*азірнуўшыся,*
*труна*
*У яміну, рылдёўкаю разрытаю.*

*Не скрыгане ўдалечыні шаша.*
*А дрэвы аблавушкі долу скінулі.*
*І моўкне дзесь нябожчыка душа*
*Перад святою*
*паднябеснай скініяй.*

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**11 сакавіка** — на паэтычна-музычнае свята «Вясна. Каханне. Натхненне», якое пройдзе ў бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.

**11 сакавіка** — на паэтычна-музычнае свята «Ад шчырага сэрца», якое адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Прагучаць песні на вершы беларускіх паэтаў у выкананні ансамбля народнай музыкі і песні «Мінскі гармонік». Пачатак а 17-й гадзіне.

**13 сакавіка** — у паэтычны клуб «Парнас» на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Алінай Легастаевай. Імпрэза адбудзецца ў бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.

# Дзецям па-даросламу

У дзіцячай бібліятэцы імя Васіля Віткі адбылася прэзентацыя кніг Таццяны Сівец для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў «Брык і Шуся шукаюць лета» і «Куды прапала малпа Маня?». Ілюстрацыі да выданняў створаныя мастачкай Аксанай Аракчэевай.

Гаспадары бібліятэкі прапанавалі ўрыўкі твора ў пастаноўцы свайго маленькага лялечнага тэатра. Пры гэтым надзвычай артыстычна, перакана́ўча і шчыра словы аўтара агучыла загадчыца бібліятэкі Тамара Патук. Натуральна, для пастаноўкі супрацоўнікі абралі эпізоды, дзе найбольш яскрава бачная інтрыга.

У той жа час Жана Лашкевіч, мастацкі кіраўнік ТЮГа, распавяла пра сцэнічную версію прафесійнага дзіцячага тэатра і падзялілася ўспамінамі пра тое, як з'явіліся творы і іх героі. «Некалькі гадоў таму мы з Таццянай Сівец доўга раіліся: што можна паказаць дзецям такое, чаго ніхто яшчэ не бачыў? Шпацыравалі па парку імя Горкага і раптам заўважылі маленькае дзіця, якое павалілася на дол, а яго бабуля пракаменціравала: «Брык!» Чым не імя для персанажа дзіцячай кнігі? Па асацыяцыі прыдумалі і Шусю: ад «шусь» — прамільгнуць, шоргнуць, шуснуць у траве — у тым жа парку».

Насамрэч, персанажы нешараговыя: не звяры і не людзі, але пэўныя істоты, «ідэнтыфікацыя» якіх мусіць добра актывізаваць дзіцячую фантазію. З другога боку, не капіруючы нікога з сучасных папулярных «мультяшных» істот, Брык і Шуся выдатна пасуюць тэндэнцыі адухаўлення, ачалавечвання нежывога, рэчавага свету, што натуральна мусіць стымуляваць спагаду да яго. Нарэшце, той «факт», што Брык і Шуся — «родам» з парку Горкага, добра вядомага дзецям, і цяпер жывуць у Тэатры юнага гледача, відавочна выклікаў шчырую цікавасць слухачоўгледачоў імпрэзы. Дзеці (як, дарэчы, і мы, дарослыя) заўсёды з павышанай увагай ставяцца да таго, што нейкім чынам ім ужо знаёмае. Свядома ці не, акалічнасць гэтая ляжыць у аснове ўсіх «серыйных», у сэнсе — доўгатэрміновых, арт- і іншых праектаў. Таксама не ведаю, ці свядома, але відавочна, што арганізатары «паставілі» на акрэсленую заканамернасць і, спадзяюся, не памыліліся.

Справа ў тым, што прэзентацыя, якая мела месца, — не разавая, кропкавая ініцыятыва «прахаднога» кшталту. Бібліятэка, аўтар, тэатр і, зразумела, настаўнікі — у гэтым выпадку арганізатары сапраўднага комплексу захадаў на глебе творчага выхавання. Пачнём з таго, што кніг дзве: чытанка-маляванка-пагулянка і ўласна казка. Пасля таго як дзяцей заінтрыгавалі тэатралізаванай прэзентацыяй казкі, плануецца, што яны мусяць, прачытаўшы яе, сабрацца наступным разам дзеля сустрэчы з прафесійнымі акцёрамі і нават прапанаваць свае творчыя спробы ў «кастынгу» на выкананне той ці іншай ролі. Гатоўнасць артыстаў тэатра правесці такую сустрэчу засведчыла мастацкі кіраўнік, запрасіўшы — для фіналу ўсёй інтэрактыўнай дзеі — маленькіх чытачоў у ТЮГ. Зразумела, што і гэта, па вялікім рахунку, не фінал, а пачатак, тая залатая нітачка, якая ўрэшце звяжа дзіця са светам кнігі, мастацтва, творчага ўяўлення і думкі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Імпрэзы*

# Пра галоўнае з любоўю

**Вечарына «…Галоўнае ў жыцці — жыццё», што днямі адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі, арганізаваная пры ўдзеле Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, была прысвечана 85-годдзю з дня нараджэння вядомай беларускай паэтэсы Еўдакіі Лось.**



*Фота Наталі Купрэвіч*

*Слова трымае сын паэтэсы Дзмітрый Лось.*

Наталля Мізон, вядучы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, ва ўступным слове нагадала асобныя факты біяграфіі творцы, якая нарадзілася ў вёсцы Старына на Ушаччыне (Віцебская вобласць) у першы дзень вясны. Дэбютны паэтычны зборнік пад назвай «Сакавік» пабачыў свет у 1958 г. Паводле Ніны Камаровай, загадчыка аддзела абслугоўвання чытачоў ЦНБ НАН Беларусі, на працягу ўсяго жыцця Еўдакія Якаўлеўна задавалася пытаннямі пра тое, як трэба пісаць і якой павінна быць паэзія. «Усё ў жыцці — да лепшага сродак», — аднойчы занатавала яна ў сваім дзённіку.

Даследчыца творчай спадчыны паэтэсы Ірына Шматкова назвала сваю прамову «біяграфіяй у вершах». Першыя паэтычныя творы юнай Еўдакіі пабачылі свет яшчэ перад трагічнымі падзеямі Вялікай Айчыннай. З цягам часу яе лірыка набыла выхаваўчы пафас. Вершы яскравай прадстаўніцы «філалагічнага пакалення» (у 1948 г. скончыла Глыбоцкае педвучылішча, у 1955-м — філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута), родапачынальніцы самабытнай плыні жаночай паэзіі ў беларускай літаратуры — гэта адлюстраванне *яе* эпохі. Цэлы шэраг твораў Е. Лось прысвяціла самым блізкім людзям — маці і сыну. «Бараўлянскі сшытак» стаўся вершаваным увасабленнем заключнага адрэзка жыццёвага і творчага шляху паэтэсы.

Пісьменнік, галоўны рэдактар дзіцячых часопісаў «Вясёлка» і «Буся» Уладзімір Ліпскі падкрэсліў: у беларускай літаратуры, паэзіі не так многа жанчын, і Еўдакіі Лось належыць асобнае пачэснае месца. Уладзімір Сцяпанавіч прадэманстраваў прысутным адзін з нумароў часопіса «Вясёлка», падпісаны ў друк самой паэтэсай, якая кіравала выданнем у 1975 — 1977 гг.

Дзмітрый Лось, сын Еўдакіі Якаўлеўны, распавёў: яго дзяцінства праходзіла пераважна ў разлуцы з маці, але хлопчык з маленства вывучаў родную мову, у тым ліку з дапамогай маміных кніг. Дарэчы, творы для маленькіх складаюць асобную старонку жыцця паэтэсы. Падчас вечарыны таксама прагучала некалькі песень у выкананні юных удзельнікаў узорнага ансамбля народнай музыкі «Бараўлянская крынічка».

На выстаўцы творчай спадчыны Е. Лось «Зараз выкажу, выпею сонца-душу», падрыхтаванай ЦНБ НАН Беларусі, былі прадстаўлены прыжыццёвыя паэтычныя зборнікі — ад «Сакавіка» да «Лірыкі ліпеня» (1977), новыя перавыданні і публікацыі твораў, аўтарскія пераклады з розных моў свету, а таксама літаратуразнаўчыя працы, прысвечаныя яе жыццю і творчасці.

**Яна ЯВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага архітэктара Беларусі, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Ленінскай прэміі і прэміі Ленінскага камсамола Леаніда Мендзелевіча ЛЕВІНА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Соф'я ШАХ



# У гэтым жыцці

## Вянок санетаў

**1**

*У гэтым жыцці неразлучныя мы, —
няма нам, няма нам яго паасобку.
Мы лёсам адзіным і перад людзьмі,
а болей прад Госпадам навідавоку.
Мы разам настолькі, што мала ўжо толку
камусьці судзіць, штосьць сваё меркаваць, —
мы непадуладныя злому папроку,
і нейчай нязгодзе нас не раз'яднаць.
І хто спрабаваў, можа, пратэставаць,
і хто праклінаў (мо было і такое),
амаль нерасталі пратэстам даймаць,
амаль што пакінулі нас у спакоі.
А зайздрасць дасюль яшчэ доўжыцца, можа:
нам рэдкая выпала дзіва-раскоша.*

**2**

*Нам рэдкая выпала дзіва-раскоша,
вядома, раскоша — інакш не сказаць.
Яе мо хіба што з нябеснасцю той жа,
са святасцю можна адно параўнаць.
Багацце, якому цаны не назваць
і шчасцем замала яго абазначыць,
калі ёсць магчымасць штодня адчуваць
раскошу адносін звышпераканаўчых.
Калі не хапае ўжо слоў нам гарачых,
калі ўжо занадта слабеюць яны,
амаль не ўжываем мы іх, нездалячых,
каб нейкай не ўзнікла і дробнай маны.
Хіба ж не раскоша — пазбавіцца цьмы
аднойчы ў канцы светланоснай зімы?!*

**3**

*Аднойчы ў канцы светланоснай зімы,
аднойчы ў азораны дзень снегападны,
калі набывалі і дрэвы, й дамы,
і вуліцы выгляд святочна-парадны;
калі ў наваколлі ўсчынаўся сапраўдны
пранікліва-белы сняжынкавы баль
і ў нейкім памкненні таемна-суладным
кружылася высь, расступалася даль;
калі як бы разам заціхлі амаль
шумы гарадскія ў чаканні зацятым, —
ішла я да Вас… Вось не помню, на жаль,
як дзень называўся, не помню і даты.
Ішла я да Вас, каб часінаю гожай
сустрэцца па міласці-літасці Божай.*

**4**

*Сустрэцца па міласці-літасці Божай,
сустрэцца, як тое нам вызначыў Ён,
і, нагараваўшыся ў долі сірочай,
лічыць гэта цудам, падобным на сон.
Вось колькі прайшло ўжо гадоў, а не дзён,
а колькі яшчэ іх у Божым запасе,
ды ладу, ды згодзе канец не відзён
у нашым сумесным зямным шчодрым часе.
Прад Богам за гэтую стрэчу ў адказе,
прад ласкай такою ўсявышняй Яго —
і ў спеўна-сугучным, удзячлівым сказе,
і ў буднях звычайных быцця усяго.
Мы разам, не трэба раскошы ўжо большай, —
у гэтым жыцці нам няма раздарожжа.*

**5**

*У гэтым жыцці нам няма раздарожжа,
расстання на волі нядобрай людской, —
сумесна мы пройдзем між цемры варожай,
даруем грэх злобы глухой і сляпой.
Зачэпяць нахабна ліслівай хлуснёй,
штурхнуць несусветнаю нейкай брыдою,
а мы — неразлучна,
мы — самі сабой,
далей паспяшаем дарогай сваёю.
Абыдуць увагай, зальюцца гразьбою?
Дык гэта было ўжо. А будзе яшчэ —
мінуем і тое ўсё спраў праватою,
і высілак чыйсьці нас не апячэ.
Іспыты? Тым болей, тым болей ад іх —
і сцежка, і шлях назаўжды для дваіх.*

**6**

*І сцежка, і шлях назаўжды для дваіх —
пятлястыя, роўныя, з болю, з трывогі,
між цесных абставін, між дум дрыгвяных,
праз навісь будзённай аблогі-знямогі.
Рука у руцэ —
і праз водсвет убогі,
плячо да пляча —
і праз існасны бляск, —
усё гэта нашы зямныя дарогі,
над імі Гасподні і позірк, і знак.
Ісці — колькі духу, а йначай — ніяк,
а йначай і думкі бы страчваюць сілу.
Мы разам, нас двое, мы йдзём на маяк —
на вечна таемны прасцяг небасхілу.
Мы йдзём да нябеснага, пэўна, падножжа,
якая ні выпала б цяжкая ноша.*

**7**

*Якая ні выпала б цяжкая ноша,
а шчасце пры нас, яно ў нас назаўжды —
часінаю лепшай, хвілінаю горшай,
а хоць ля самое, урэшце, бяды.
А хоць ля самое парой страхаты,
ды шчасце, аднак, застаецца тым шчасцем,
з якім нават сорамна неяк на «ты»,
калі яно — вышняга свету паняцце.
Вось існае нашае цуда-багацце,
вось тое, адкуль гэта прага жыцця:
мы так зніταваны высокім суладдзем,
што кожны прад ім з нас — нібыта дзіця.
Няхай спасцігаюць, як хто не спасціг:
нас не разлучыць ні на дзень, ні на міг.*

**8**

*Нас не разлучыць ні на дзень, ні на міг, —
ўяўленню разлука нат не паддаецца,
таму што да самых асноў патайных
маё каля Вас векавечнае месца.
Таму што ад Вашага добрага сэрца —
маё не здаецца, і наадварот:
штодня ад майго —
Ваша сэрцайка б'ецца,
турботаў змагаючы з'едлівы гнёт.
А год не падобны палёгкай на год,
а клопаты-справы даўно не лягчэюць
і так уцягнулі ў свой кругаварот,
што ўжо адпусціць аніяк не здалеюць.
Але паміж Вашых бядот і маіх
у гэтым жыцці слыхам шчасціцца слых.*

**9**

*У гэтым жыцці слыхам шчасціцца слых.
О, як гэта гойна, як плённа раз-пораз —
сярод галасоў дарагіх і чужых
пранікліва чуць найпатрэбнейшы голас!
Тады і любая быццёвая дробязь
свой сэнс набывае, тым сэнсам расце,
тады гэтых дробязей стройная повязь
адбітак на светаўспрыманне кладзе.
Прастора трапеча, звініць і гудзе,
і гук трапятліва ўзвышаецца гукам,
і ўжо не адрозніць, дзе сам ён, а дзе
стаў спеву санетнага існасным духам.
І водгалас недзе чуцён так далёка,
і зрок ратавальна трымаецца зрокам.*

**10**

*І зрок ратавальна трымаецца зрокам.
О, як гэта дзіўна, які гэта дар,
што бачым адно аднаго мы так лёгка,
нягледзячы нават на нейкі цяжар.
Што вось —
існай праўдай штодня —
твар у твар,
што вось —
найсумленнасцю —
позірк у позірк,
і гэтае даў нам Гасподзь-Уладар —
адно аднаму шчасціць воблікам воблік.
І поўніць прастору то сонца, то поўні,
і колеры-фарбы праменяць сябе,
і кожны іх тонка народжаны промнік
адценні віе, зыбы-ўспыхі снуе.
І нібы працяг усіх дзеянняў тых —
у гэтым жыцці кожны ўсклік наш і ўздых.*

**11**

*У гэтым жыцці кожны ўсклік наш і ўздых —
то сказ неўтаймоўны, то спеў малітоўны
між дзён, на кароткую радасць скупых,
між дзён, гэтай радасцю ўсё ж красамоўных.
У днях, мітуснёю пустотнаю поўных
і гэтым, здаецца, грахоўных наскрозь,
і ў днях, разгарачаным зместам духоўных,
калі адбываецца вышняе штосьць…
У гэтым жыцці, дзе калісь маладосць
нас аб'яднала між выпрабаванняў,
цяпер ужо голас і водгалас ёсць
двух нашых дыханняў, двух нашых адхланняў.
І ён (вось адкуль патайная палёгка!)
гучыць ва ўнісон нашым зладжаным крокам.*

**12**

*Гучыць ва ўнісон нашым зладжаным крокам,
гучыць адпаведна той празе хады,
тым тонкім вытокам, настолькі высокім,
што іх ці паспеюць спасцігнуць гады.
Ах, Божа, як бачны нам з нашай вярсты
свабодныя шыры, яснотныя далі,
дзе столькі адкрытай жыццю пекнаты,
якую і сніць можна мо ў ідэале!
Яе мы чакалі, яе прадчувалі
і столькі выразлівых сіл аддалі,
каб зрокам, каб слыхам у Боскім прагале
ўсвядоміць, якую адлегласць прайшлі,
на незасутонены трапіўшы ўздым
у гэтым жыцці, ў беласветна-зямным.*

**13**

*У гэтым жыцці, ў беласветна-зямным,
дзе плачацца больш нам, а меней смяецца,
дзе час наш мінулы —
што ранішні дым, —
плыве-адплывае і ў снах застаецца.
У гэтым жыцці, дзе пакута даецца,
каб шчасце праверыць у межах яе,
каб ведаць, што тонкая сувязь не рвецца, —
ў працяг шчэ танчэйшай сама сябе ўе.
Што спеў мой у Вашай душы існуе,
а Ваш — у маёй волю вольную мае,
і колькі паветра для дыху стае,
вось столькі і прага быць разам — жывая.
У гэтым жыцці, у кароткім такім…
Гасподзь, хай так будзе калісьці і ў тым!*

**14**

*Гасподзь, хай так будзе калісьці і ў тым.
Прымі, калі можаш, малітву-патрэбу, —
мы век пад паглядам выразным Тваім,
Твайму падуладныя вешчаму небу.
Мы так палюбілі радзімую глебу,
нас так паланіла-прызнала яна,
што, Божа, ужо не хацелася б тэмпу,
з якім расспяшаліся восень, вясна.
А мы яшчэ не адспявалі спаўна,
а ў нас —
яшчэ спраў запасных,
неадкладных,
а свет акаляючы нават з акна
такі незалежны, такі ненаглядны…
І довад галоўны, як існасць, прамы:
у гэтым жыцці неразлучныя мы.*

**15**

*У гэтым жыцці неразлучныя мы,
нам рэдкая выпала дзіва-раскоша:
аднойчы ў канцы светланоснай зімы
сустрэцца па міласці-літасці Божай.
У гэтым жыцці нам няма раздарожжа, —
і сцежка, і шлях назаўжды для дваіх.
Якая ні выпала б цяжкая ноша,
нас не разлучыць ні на дзень, ні на міг.
У гэтым жыцці слыхам шчасціцца слых
і зрок ратавальна трымаецца зрокам.
У гэтым жыцці кожны ўсклік наш і ўздых
гучыць ва ўнісон нашым зладжаным крокам.
У гэтым жыцці, ў беласветна-зямным…
Гасподзь, хай так будзе калісьці і ў тым!*



Фота Кастуся Дробава



Настасся НАРЭЙКА

# Белы вальс

*Апавяданне*

Белее снега белый вальс,
кружись, кружись,
Чтоб снегопад подольше
не прервался!
Она пришла,
чтоб пригласить тебя
на жизнь, —
И ты был бел — белее стен,
белее вальса.

**Уладзімір Высоцкі**

*Я вялікі скрыпач. Я геній. І гэта не выхваляння чалавека, які занадта любіць сябе.*

*Я сапраўды вялікі скрыпач, бо маю музыку чуюць нават глухія…*

*Свой лепшы вальс я сыграў у 45-м. У сярэдзіне мая. Ноччу. Сярод руін напалову разбуранай школы. Я раскажу вам, як гэта было…*

Іх дарогі перасекліся занадта позна для яго і занадта рана для яе.

1 верасня 1940 года, калі ён упершыню з'явіўся на лінейцы ў яе школе, яму споўнілася 34. Гэта лічба, падзеленая на 2, давала яе ўзрост, і яму, настаўніку матэматыкі ў трэцім пакаленні, не трэба было тлумачыць, што сямнаццаць гадоў розніцы неадольнай бездання лягуць паміж імі.

Той восенню Рыгор Барысавіч перажываў развод з жонкай і дзякаваў лёсу за тое, што яны з Зінаю так і не прыдбалі дзяцей. Яго дзіцем, яго болем, яго страхам стала яна — Жэня Матросава.

На ўроках матэматыкі немагчыма было схавацца ад позірку яе шэрых пранізлівых вачэй. Яна сядзела за першай партай — заўсёды. Выконвала хатнія заданні — заўсёды. Першай паднімала руку — заўсёды. І яму рабілася страшна.

Жэніны аднакласнікі шапталіся на апошніх партах. Калегі зацята маўчалі, спыняючы ўсе размовы, як толькі ён уваходзіў у настаўніцкую. Нервы Рыгора Барысавіча звінелі, быццам струны маёй скрыпкі, калі яна плача.

Суцэльная пакута!

Як ён дажыў да канца навучальнага года — таямніца. На выпускны баль дзясятага класа, у якім вучылася Жэня, намерыўся не ісці, але дырэктрыса сказала, як адрэзала: «Класны кіраўнік не кідае сваіх выхаванцаў».

Быў душны чэрвеньскі вечар. У актавай зале школы вокны расчыніліі насцеж.

Рыгор Барысавіч, белы, як папера, марыў зліцца са сцяной, да якой прыхінуўся, і разумеў, што ўсё марна. Гэтай ноччу Жэня ўпершыню прыйшла да яго ў сне. У белай сукенцы, нібыта з месячнага святла.

Дзясяткі вачэй упіліся ў яго твар, калі на парозе залы з'явілася яна. «Самы страшны момант у маім жыцці», — падумаў Рыгор Барысавіч. І памыліўся. Гэта даравальна, бо ён не ведаў, што будзе далей. А я ведаю і раскажу вам.

Калі аб'явілі першы вальс, безумоўна, не такі прыгожы, як мой, Жэня рашуча накіравалася да свайго настаўніка. А ён глядзеў, як яна ідзе ў аглушальнай цішыні, і разумеў, што ўсё скончана. Ён ведаў: яна ідзе, каб назаўсёды забраць яго сэрца.

Жэня спынілася насупраць і працягнула руку далонню ўверх. Даверліва.

Уся зала чакала яго рэакцыі. І ён чакаў сам, нібыта назіраў за ўсім, што адбываецца, збоку. Цікава, як будзе паводзіць сябе гэты бледны, стомлены чалавек у шэрым гарнітуры? Чалавек вагаўся. А потым развярнуўся на абцасах і імкліва пайшоў прэч. Жэніна рука бязвольна ўпала.

На наступны дзень Рыгора Барысавіча ў горадзе ўжо не было. Па дарозе ў нікуды яго перахапіла вайна…

Куля і асколак міналі Рыгора Барысавіча цэлыя тры гады, пакуль лёс не распуціў таямнічай, яму аднаму вядомай мяжы, нібыта збіраў вострыя кавалачкі металу, каб выкаваць з іх самае страшнае, самае няўмольнае — смерць.

Дзень свайго ранення ён запомніў назаўсёды — тое самае 1 верасня. Некалькі тыдняў пасля яго цалкам выпалі з жыцця Рыгора Барысавіча. Свядомасць вярнулася раптоўна, і ў чарговы раз жыццё пажартавала з ім.

Апошнія дні (ён ведаў, што апошнія) Рыгор Барысавіч мусіў правесці на вузкім ложку шпіталя, размешчанага ў той самай школе, дзе маленькая дзяўчынка адным рухам тонкай рукі разбурыла яго ны і без таго хісткі свет.

Па іроніі лёсу ў палату для асабліва цяжкіх параненых пераўтварылі тую самую актавую залу. Ён ляжаў ля акна і кусаў вусны, каб не крычаць ад болю. Старэнькі хірург у пагнутых акулярах з круглымі шкельцамі дастаў зазубраны асколак з яго грудзей і не заўважыў нават, што сэрца ў іх даўно няма.

Па начах Рыгору Барысавічу сніліся жахі — абгарэлыя дрэвы, разбуранае жытло, мёртвыя людзі. І толькі Жэня ніколі больш не прыходзіла ў яго сны. Відаць, таму, што аднойчы прыйшла наяве. Медсястрычка…

Яму было так дрэнна, што Жэніна з'яўленне ён палічыў трызненнем і загадзя развітаўся з жыццём.

Яна пазнала яго. І з той пары не адыходзіла ні на імгненне, трымала за руку, выцірала пот і слёзы, гаварыла нешта.

Часам ён разбіраў асобныя словы і тады гаварыў сам.

— Я памру.

Яна не згаджалася.

— Я памру!

Яна супакойвала яго, як дзіця.

— Мы будзем жыць. І ты, і я. Мы прычакаем перамогі, і ў гэтай зале я зноў запрашу цябе на вальс. І ты не адмовіш. Так будзе.

Рыгор Барысавіч пярэчыў, як мог. Дарма.

Ён праганяў Жэню — яна не слухалася. Проста сядзела побач днямі і начамі, бледная і худая, падобная да хлопчыка з кароткімі каштанавымі валасамі, што завіваліся на скронях.

Яна выходзіла на паветра толькі калі ён спаў, і медсёстры-сяброўкі пыталіся: «Хто ён?» — «Мой муж»,— адказвала Жэня, і на яе глядзелі са шкадаваннем. Гэта не мела значэння.

Склалася так, што менавіта яна з адной са сваіх прагулак прынесла страшную вестку — немцы збіраліся паліць шпіталь. Стары хірург моўчкі кіўнуў, пачуўшы гэта, і тым жа вечарам цяжкіх параненых пачалі пераносіць на два вазы, якія цудам удалося знайсці. Іншых ляжачых неслі на насілках. Хто мог, ішоў сам.

Жэня падтрымлівала сівога салдата, што застаўся без нагі, і вачэй не зводзіла з воза, на якім трызніў і кідаўся ў пакутах Рыгор Барысавіч. З закушанай губы ручайком бегла кроў…

Яны ішлі ўсю ноч, а раніцай пачаўся абстрэл. Апошняе, што запомніла Жэня, быў боль, ад якога галава раскалолася надвое.

Там я і знайшоў яе. Напаўжывую. Астатнім, хто ляжаў на дарозе, дапамагчы было ўжо немагчыма.

Вельмі-вельмі доўга Жэня не ачуньвала. Доктар, якога я паклікаў, зрабіў усё, што мог, і пайшоў, пакінуўшы мне замест надзеі сухое «Няма сэнсу». Я не верыў. Яна была так падобна да маёй дачкі, пахаванай пад ігрушай у садзе! Я нават маліўся за Жэню, хоць ні ў што ніколі не верыў. Я прасіў выратаваць яе, і Бог, у існаванні якога больш не маю сумненняў, мяне пачуў. Яна прачнулася.

Я так узрадаваўся, што адразу схапіў скрыпку, якое не кранаў з часу смерці дачкі. Я іграў вясёлую мелодыю, а яна, Жэня, глядзела на мяне, і слёзы беглі па яе твары. Яна хацела сказаць нешта, варушыла беднымі вуснамі, але я так захапіўся ігрой, што не заўважаў. Толькі крык прымусіў мяне апусціць смык.

— Я не чую!

Яе словы выцялі мяне, як бізун…

Доўга і цяжка Жэня вучылася мяне разумець. Гэта нагадвала гульню, правілы якой яна не ведала. Мы пасябравалі, і хутка я ведаў пра яе ўсё. Начамі Жэня часта трызніла, клічучы свайго былога настаўніка, а я безвынікова шукаў хоць нейкія яго сляды.

— Відаць, загінуў, — тлумачыў ёй я.

— Не! Не можа быць.

Раз на дзень Жэня абавязкова хадзіла на папялішча сваёй школы, блукала сярод шчарбатых сцен, чорных, як ноч, падоўгу сядзела ў пустых вачніцах выбітых вокнаў былой актавай залы. Я баяўся за яе, але Жэня толькі ўсміхалася і зноў ішла на руіны.

— Калі-небудзь мы пераможам у гэтай вайне. І тады ён прыйдзе сюды. Будзе гучаць ваша скрыпка, тата. (Калі яна гаварыла так, я ледзьве стрымліваў слёзы.) І я запрашу яго на вальс.

У мяне не было сіл пярэчыць, і я проста абдымаў яе. Я слаба верыў у тое, што яна гаварыла, і гэта — найвялікшы мой грэх.

Дзіўна прагучыць, але я нават баяўся перамогі, баяўся, што Жэніна мара не спраўдзіцца і ў мяне зноў не стане дачкі. Між тым, сонечны май 45-га няўхільна набліжаўся.

Два тыдні запар пасля весткі пра перамогу мы штовечар выпраўляліся ў школу. Яна апранала белую, як снег, сукенку з пасагу, які збірала мая дачка Валя. Спадзяюся, яна не крыўдуе на мяне за гэта.

Кожная ноч, праведзеная ў чаканні, адбірала ў Жэні год жыцця. Я не мог на гэта глядзець… Я ціха плакаў, схаваўшыся ў цень, і забываў, што яна не пачуе, нават калі я зарыдаю ўголас.

У адну з асабліва зорных начэй недзе побач пачуліся цяжкія крокі — і я ўвесь сцяўся. Жэня імгненна адчула гэта і ўстала, прашаптаўшы:

— Ён тут. Вазьміце вашу скрыпку, тата.

Я глядзеў, як яна ідзе насустрач Рыгору Барысавічу (гэта быў ён), і сэрца маё прапускала ўдары.

Калі яны ўжо былі побач, я пачуў глухі грукат вінтоўкі аб падлогу. Ён узяў яе працягнутую руку — і мая скрыпка заспявала чароўнай птушкай.

Гэта быў самы цудоўны белы вальс!

Партнёр вёў Жэню ў танцы так упэўнена і па-майстэрску, што яны ніводнага разу не збіліся з такту. Я ўпэўнены: да самай апошняй ноты Рыгор Барысавіч не ведаў, што мая дачка нічога не чуе.

Яе белая сукенка рэзка кантраставала з яго шэрай формай, і ядналі іх хіба толькі сівыя валасы.

Я іграў. І не было вакол ні чорных абгрызеных сцен, ні выбітых вокнаў, ні падлогі, засыпанай шклом і попелам. Былі толькі яны ды яшчэ неба, поўнае зор. Я глядзеў на яго і думаў, што лепшага даху нельга прыдумаць.

*Я іграў цэлую ноч.*

*Я вялікі скрыпач. Гэта не эгаізм. Гэта — праўда.*



Таццяна ФІНСКАЯ

# Крама дзядзькі Лёсу

*Апавяданне*

**У «ЛіМе» Таццяна Фінская друкуецца ўпершыню. Нарадзілася 29 студзеня 1985 года ў Мінску. Працуе педагогам-псіхолагам у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. У вольны час цікавіцца літаратурай, псіхалогіяй, гісторыяй. Яшчэ студэнткай захапілася такім напрамкам псіхалогіі, як казкатэрапія, і сама пачала пісаць псіхалагічныя казкі і апавяданні для дзяцей і дарослых. У хвіліны натхнення спрабуе перадаваць свае пачуцці праз паэзію і прозу з элементамі містыкі.**

Аднойчы, калі я блукала па вячэрнім заснежаным горадзе, асэнсоўваючы надзённыя жыццёвыя справы і праблемы, мой погляд выпадкова наткнуўся на дзівосную шыльду. Раней чамусьці я ніколі не заўважала яе, мабыць, таму яна і вылучылася на фоне звыклага пейзажа. Шыльда «Крама дзядзькі Лёсу» была прыцярушана снегам і, што незвычайна ў сённяшнім горадзе з яго рознакаляровымі агнямі, ніяк не падсвятлялася. Праўда, у невялікім акенцы віднелася цьмянае святло. Мне захацелася зайсці ў гэта памяшканне, нават хутчэй не з спажывецкай цікавасці, а каб хоць трошкі сагрэцца.

Званочак на дзвярах зазвінеў, апавяшчаючы гаспадара крамы пра наступнага пакупніка. Памяшканне здалося вельмі маленькім, але ўтульным, а цішыня нагадвала атмасферу кнігарні, што адразу ж мяне і падкупіла.

За прылаўкам я ўбачыла немаладога, з даволі ясным, пранізліва-калючым позіркам мужчыну, які толькі на секунду падняў вочы на мяне і, не выявіўшы больш ніякай цікавасці, працягваў вязаць нешта шэрае. Калі ён паглядзеў на мяне, я адчула некаторую трывогу, але цікаўнасць узяла верх, і я смела пачала аглядаць асартымент на паліцах. З першага погляду крама нічым не адрознівалася ад звычайнай кававай: такія ж мяшэчкі на паліцах, на іх надпісы, яшчэ нейкія слоічкі, колбачкі і нават куфар. Адрозненне было толькі ў назвах, акуратна выведзеных на мешкавіне: «Поспех», «Слава», «Улада», «Прыгажосць». Я ўзяла мяшэчак «Поспех» у рукі і прачытала пад назвай маленькія літары: «Пабочны эфект: пры частым выкарыстанні непазбежны паток зайздрасці, зласлоўя і нядобразычлівасці, які будзе вам перашкаджаць!» Я акуратна паставіла «Поспех» на месца. Гаспадар змерыў мяне позіркам і, ухвальна кіўнуўшы, не сказаў ні слова і зноў унырыўся ў свой карпатлівы занятак. Мой погляд сустрэўся з назвай «Мэтанакіраванасць». Я ўсміхнулася: «Вось яе мне сапраўды не хапае!» На жаль, інструкцыя і тут не парадавала: «Прадаецца ў камплекце з напорыстасцю, нахабствам, беспрынцыповасцю».

— Ох, паненка, — парушыў цішыню скрыпучы голас гаспадара, — не там глядзіце. — Ён зняў з паліцы несамавітую скрынку, садзьмуў з яе пыл: — Звычайна маладыя кабеткі цікавяцца, ха-ха-ха, — засмяяўся дзядуля і падсунуў скрынку да мяне. На скрынцы ледзь віднеліся зацёртыя літары — «Каханне», інструкцыя гэтак жа прыкладалася: «Канструкцыя далікатная! Тэрмін прыдатнасці залежыць ад умоў захоўвання! Усякая гарантыя адсутнічае!»

— Цікава, як жа вы ацэньваеце ўсё гэта? — абвяла я поглядам паліцы.

— Ха-ха-ха! — зноў ажывіўся стары. — За тавары першай неабходнасці я, дзядзька Лёс, прызначаю кожнаму свой кошт.

— Дык навошта ж гэтыя тавары, калі, набыўшы адзін, вунь той, — паказала я на ніжнюю паліцу, дзе стаяў вялікі куфар «Шчасце», — можна забяспечыць сябе ўсім?

— А вось на яго афармляецца пажыццёвы крэдыт. Калі вы яго набываеце, то ўсё астатняе жыццё павінны будзеце нешта за яго аддаваць, чымсьці ахвяраваць. Жадаеце?

Я пакінула краму ні з чым, спалохаўшыся на тое, што не люблю быць абавязанай. Але адчуванне цяжкіх торбаў з "таварамі першай неабходнасці" мяне не пакідала. І гэта была прыемная ноша, яны і так былі заўсёды са мной, праўда, чалавеку ўласціва забываць і не заўважаць тое, што ён ужо мае.

# Радзіме — радок і жыццё

Малюнак гэты неаднойчы ўрываўся ў маю памяць, паўстаючы да таго асязальна, быццам бачу ўсё і адчуваю наяве. Моцны вецер — ажно перахоплівае дыханне і здаецца, паветра не хопіць. Трывогі большае, калі чуеш здалёку ваўчынае выццё. Мароз такі, што галінкі дрэў здранцвелі. Краніся каторай — і яна зламаецца, бо стала крохкай, нібы шкло.

Упершыню я ўбачыў і адчуў гэта ў 1989 годзе — дзякуючы паэту Генадзю Шведзіку, кніга якога «Матчына сляза» якраз выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Яе выпусцілі ў серыйным афармленні, праўда, назва серыі не пазначана, усяго адметны знак яе — пяро ў полымі. Так выдаваліся творы паэтаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Адзін з вершаў кнігі «Матчына сляза» (дакладней, кніжачкі — яна невялікая, ці не кішэннага фармату) адразу запаў у памяць і колькі ўжо гадоў не адпускае, выклікаючы жаданне зноў і зноў да яго звяртацца:

*Замарозіў вокны*
*Вецер на дасвецці,*
*Вые за пагоркамі ваўчыны гон.*
*Мароз — аж сорак градусаў.*
*Нібы шкляное — вецце.*
*А ў хаце пануе салодкі сон.*

*Не хочацца з-пад коўдры*
*высоўваць ногі.*
*У хаце так утульна,*
*напалена як след.*
*Нічога не зробіш.*
*Жыццё — начальнік строгі!*
*І хлопцы выходзяць*
*у завірушны снег.*

Усё гэта не аўтарскай фантазіяй народжана, а самім паэтам перажыта, напісана, як кажуць, з натуры, бо ўсё, пра што ён расказаў, — часцінка яго біяграфіі. Пакінуўшы цёплы і ўтульны Мінск, Г. Шведзік паехаў на Далёкі Усход, дзе быў камунарам, а потым перабраўся ў Бірабіджан. На той час Генадзь быў маладым яўрэйскім паэтам, і яму, рамантычнаму, узнёсламу, хацелася быць менавіта там, на пярэднім краі. У Бірабіджане працаваў на будоўлях, шукаючы, як і ўвогуле ў жыцці, сваю «песню… запаветную». Разам быў і з хлопцамі-камунарамі, якія «выходзілі ў завірушны снег»:

*Халодныя аглоблі,*
*абуджаныя коні —*
*Ім кідаць неахвота*
*ў карытах авёс…*
*Заносяць хлопцы дугі,*
*Зацягваюць супоні,*
*Кажухі зашпільваюць —*
*мацнее мароз.*

*Торгаю лейцы — і конік заклыпаў*
*У белыя пуховыя абшары зімы.*
*Санкі за санкамі*
*па дарозе рыпаюць, —*
*Па сена,*
*па сена,*
*па сена едзем мы.*

**(Пераклад Артура Вольскага)**

Пісаў Г. Шведзік на ідыш, узрадаваны, што з прыходам савецкай улады мова адчувае сябе роўнай сярод роўных. Таму і тагачаснае жыццё ўспрымаў радасна. І іншыя ягоныя творы, дый не толькі з падборкі «Далёкі Усход», але і з нізкі «Бірабіджанскія вершы», таксама светлыя, аптымістычныя, бо святлом поўніўся і сам паэт. Ён пісаў з верай у заўтрашні дзень, выказваў уласныя думкі і пачуцці, але адначасова гэта былі думкі і пачуцці яго аднагодкаў, якія шчыра віталі новае жыццё, а многія, як і ён, ехалі ў далёкія краі з упэўненасцю, што *«Будзе надзейна служыць чалавеку // Раскарчаваная намі зямля. // Сіла юначая ўсё пераверне — // Што ёй тайга, балота, і стэп… // Выспее ў пульхных разорынах зерне, // Ўзнімецца жыта — // Будучы хлеб»* (таксама пераклад А. Вольскага).


З жонкай. 1935.

Нарадзіўся Г. Шведзік у горадзе Бабруйску 4 сакавіка 1914 года. У Мінску скончыў рабфак, а потым — літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Адначасова працаваў у рэдакцыі газеты «Юнгер арбайтэр» («Малады рабочы»). Потым загадваў аддзелам у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», выкладаў рускую мову і літаратуру ў адной са сталічных школ, быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР.

Упершыню выступіў у друку з вершамі ў 1929 годзе па прыездзе ў Мінск. На ідыш выдаў кнігі «Старт» (1934) і «Вершы» (1939), а таксама паэму для дзяцей «Наш Джым» (1935). Прымаючы на ўвагу, што пражыў ён 28 гадоў, гэта не так і мала. Першы зборнік Г. Шведзіка ў перакладзе на беларускую мову выйшаў у 1962 годзе і называўся сціпла — «Лірыка». Сапраўды, Г. Шведзік найперш быў лірыкам, што асабліва відаць па гэтым цудоўным вершы, перакладзеным Рыгорам Барадуліным:

*Ці бачыў ты жыты густыя,*
*Як лёгка ліпеньская ноч*
*Галовы гладзіць каласам,*
*Калі за лесам сонца сядзе?*
*Глядзіш ты на жыты густыя, —*
*Задумліва-ўрачыста ўсё!*
*Ды тут прахопіцца вятрэц*
*І каласы зашэпчуць шумна…*

Важна, што і сам чалавек паўстае часцінкай прыроды і, паядноўваючыся з ёю, гатовы імкнуцца ў неабсяжную далячынь, убіраючы ў сябе ўсё гэтае харassтва, а напоўнішыся ім, і сам прыгажэе душой:

*Ці бачыў ты жыты густыя,*
*Ці бачыў ты жытнёвы шквал?*
*Жыты хвалююцца, бягуць, —*
*Куды ні кінеш прагны позірк.*
*Адно ў жыты густыя кінься,*
*Цябе падхопіць, як дзіця,*
*І чуеш, як цябе нясе*
*Да сініх-сініх даляглядаў…*

Г. Шведзік вельмі любіў паэзію, жадаючы, каб і іншыя менавіта так ставіліся да яе. Гэта добра відаць са «Слова пра друга» Рыгора Бярозкіна: «Па горадзе хадзіў надзіва прыгожы юнак: кучаравы, блакітнавокі, у паношанай скуранай тужурцы. Хлопец заўсёды спяшаўся і, прыціснуўшы да сцяны або ў кут любога, хто трапляўся пад руку, «душыў» яго вершамі: «Думай» Багрыцкага, лірыкай Гейнэ (*маецца на ўвазе паэт Аркадзь Гейнэ. —* **А. М.**), уступам да куляшоўскага "Амаяла"».

Таму Г. Шведзік заўсёды і спяшаўся, што яму хацелася як мага хутчэй усё зведаць і спазнаць. Хоць, бадай, і па іншай яшчэ прычыне: у свеце пахла порахам. Магчыма, і прадчуваў ён, што лёсам яму адведзены нядоўгі жыццёвы век. І асабліва балюча ўспрымаў адыход паэтаў. Калі ехаў на фронт, 4 ліпеня 1942 года пісаў жонцы: «…Сёння прачытаў у газеце, што Янкі Купалы не стала. Здалося, што пасля такога месяц больш свяціць у небе не будзе. Мы ж усе так былі прывязаны да гэтага любімага, сапраўды беларускага чалавека. І раптам… А зусім нядаўна мы ў Чэбаксарах пілі з ім віно. Так вось яно, дзіця маё…» (*тут і далей вытрымкі з лістоў падаюцца ў перакладзе А. Вольскага. —* **А. М.**)

Пісаў з Бухары, дзе праз дванаццаць дзён быў залічаны ў маршавую роту. У чарговым лісце жонцы прызнаваўся: «Настрой у мяне аптымістычны, я веру ў хуткую нашу перамогу і спадзяюся, што мы неўзабаве сустрэнемся». Тут жа ўдакладніў: «Калі застануся цэлы і прайду ўсе сем смярцей, я стану сапраўдным пісьменнікам…» Апынуўся на фронце пад Смаленскам. Апошні свой ліст адаслаў жонцы 7 кастрычніка 1942 года. Як быццам у ім нічога незвычайнага, ды гледзячы як да ўсяго падысці! Падыходзіць жа трэба, хоць на імгненне ўявіўшы абставіны, у якіх знаходзіўся Г. Шведзік: небяспека падпільноўвала на кожным кроку, неставала звычайна чалавечай радасці. А ён гэтую радасць адчуў і дзяліўся ёй з жонкай: «…У гэты час сяджу ў «цырульні», адкуль пайду ў лазню. Гэтыя мерапрыемствы на фронце вельмі рэдкія. Яшчэ большая рэдкасць сядзець на лаўцы ля стала ў вясковай хаце… Я знаходжуся ў некалькіх кіламетрах ад немцаў, а адчуванне ўжо зусім іншае — быццам я далёка ад фронту». Ды толькі гэтая далёкасць падманлівая: «Хутка пагалю сваю зараслую, вельмі зараслую бараду (не памятаю, калі галіўся) і пайду ў вясковую лазню. Адтуль — да сябе дамоў, у бліндаж». Перадавая ж лінія, як вядома, — гэта пастаянная блізкая прысутнасць ворага: «Наперадзе ад мяне няма чырвонаармейцаў. Тут я чую гукі нямецкай мовы, што далятаюць з іх лініі фронту. Такім чынам, знаходжуся я **на самай мяжы паміж дзвюма паловамі свету** (*вылучана самім Г. Шведзікам. —* **А. М.**). Тут не запальваюць агонь, уначы не кураць, сагрэюцца толькі ўласным цяплом. Таму для мяне дзіўна, нязвыкла сядзець ля стала ў цёплай хаце…» І просьба да жонкі, у якой тое, што пастаянна не давала яму спакою: «Абавязкова паведамі, ці атрымала апошнія мае вершы. Цікава будзе, калі яны згубяцца. Учора я іх цярпліва перапісваў застылымі рукамі ў халодным бліндажы». І нібы прадчуванне прымусіла ў канцы ліста напісаць менавіта гэта: «Як пісьменнік я шмат выйграў. Калі буду пісаць толькі добра. Гэта я магу з пэўнасцю сказаць. Бо я сёе-тое пабачыў і на ўласных плячах перанёс…»


Генадзь Шведзік.

Куля чакала яго яшчэ чатыры дні, да 11 кастрычніка сорак чацвёртага. Сведчанне дзіцячага пісьменніка Станіслава Шушкевіча: «У маладога сінявокага салдата-кулямётчыка, скошанага варожай куляй каля вёскі Дваешкі на Смаленшчыне, засталіся стужка патронаў і сшытак вершаў. Чырвонаармейцы выпусцілі па ворагу недастралянныя зарады, пахавалі таварыша, а сшытак вершаў адаслалі яго сваякам. А ў тых вершах была нязгасная любоў да сваёй Радзімы і вогненная нянавісць да ворага, а ў тых вершах засталася вера ў перамогу і ў людское жыццё і шчасце». А гэта з ліста ўдаве Г. Шведзіка, дасланага камандзірам роты старшым лейтэнантам Талстовым: «Ён быў добры таварыш, просты, ніколі не выхваляўся сваёй адукацыяй. Мы блізка з ім пасябравалі — яўрэйскі пісьменнік і былы вясковы пастух…»

Ад Г. Шведзіка так і хочацца перакінуць масток да Андрэя Ушакова — паэта, які таксама загінуў на вайне ці то у 1941-м, ці то ў 1942 годзе, дакладна не вядома. Яшчэ ў 1935-м ён напісаў верш «Многаму ім ты ў жыцці абавязан»:

*Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,*
*Ты імёны іх прачытай і запомні.*
*Ты пройдзеш па полі,*
*па сцежках лясных,*
*Праз ціхі вечар і ясныя промні.*

*Каб даць спакой*
*здранцвелым нагам,*
*Прысядзеш спачыць*
*у цяньку пад вязам.*
*І, можа, будзе зусім няўцям,*
*Як многаму ім ты*
*ў жыцці абавязан.*

Усе мы абавязаны і Андрэю Ушакову, і іншым паэтам, якія загінулі, абараняючы Радзіму, і безумоўна, Генадзю Шведзіку — радавому кулямётнай роты і радавому беларускай паэзіі. Яго талент не паспеў раскрыцца належным чынам, але і тое, што напісаў гэты «прыгожы: кучаравы, блакітнавокі» юнак, заслугоўвае памяці. А яшчэ лепш, калі знойдуцца ахвочыя пайсці ў бібліятэку і ўзяць яго невялічкі, кішэннага фармату томік, у якім змешчаны вершы, лісты з фронту, — «Матчына сляза».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Берагіня сэрца, душы, успамінаў»

Вобраз маці заўсёды прыцягваў да сябе пільную ўвагу пісьменнікаў. Колькі кранальных радкоў прысвяцілі Маці паэты Гётэ і Верлен, Шаўчэнка і Ясенін, а таксама Колас, Танк, Панчанка, Барадулін і многія іншыя.



Гаўрыіл Вашчанка «Маці».

Алесь Жыгуноў — адзін з паэтаў, што працуюць у традыцыйным кірунку. Яго творчасць нельга назваць «масавай», яна разлічана на чытача разважлівага, назіральнага і ўдумлівага. Цэнтральным пунктам яго паэзіі з'яўляецца Маці: яе роля ў жыцці паэта, сувязь з ёю як сувязь з радзімай.

Маці Алесь Жыгуноў прысвяціў багатую нізку вершаў — больш як трыццаць — і дзве паэмы: «Тройца» і «Спатканне з Тройцай».

Калі чытаеш раннія творы паэта («Дрэвы», «Сямёнаўна», «Вышыванкі»), змешчаныя ў першым зборніку «Матчына вышыванка» (1984), нязмушана ўяўляеш вобраз Марыі Сямёнаўны: *«найдабрэйшай»* вясковай жанчыны, *«любай»* і *«клапатлівай»*. Яе вобраз непадзельны з вобразам роднай хаты, што на Шклоўшчыне, у вёсцы Тройца:

*Ветразем белым*
*Матчына хата*
*Па лістападаўскім*
*Плёсе плыве…*

**(«Нашчодрыла лета…»)**

У другім зборніку («Мая Тройца», 1993) акрамя вершаў, у якіх аўтар бачыцца рамантычна-акрыленым, ёсць і іншыя, поўныя хвалявання. Нярэдка паэт думае вярнуцца на радзіму. Раскрываючыся перад чытачом, Алесь Жыгуноўвініцца, што многае ён недадаў маці пры жыцці, не паспеў, не рашыўся.

У зборніку «Мая Тройца», як і ў «Маёй вышыванцы», Алесь Жыгуноў звяртаецца да вясковых жанчын-маці, перад якімі, як і перад Марыяй Сямёнаўнай, ён таксама адчувае віну:

*Калі матуль старэнькіх забываюць,*
*Матулі нечакана паміраюць.*
*Ды дзякуй богу, ёсць яшчэ сыны*
*Чужыя, быццам родныя яны.*

**(«Бабулі песні ладзяць у застоллі…»)**

Непрытоена, нават з пэўнай доляй грамадзянскага пафасу паэт асуджае «бяспамятных» сыноў і дачок, якія *«дому зракліся і любай матулі»*.

Вершы, змешчаныя ў зборніку паэзіі «Пагавары са мной пра восень» (2004), шчырыя, «сіратлівыя». Напісаныя пасля смерці маці, яны пранізаны «вятрамі» і ўспамінамі. У паэзіі гэтага перыяду Алесь Жыгуноў часта выкарыстоўвае зварот, што дазваляе яму ўяўна «пагаварыць» з маці, «выплакаць» сваё гора на паперы:

*Прысніся, мама, бо хачу*
*Пагаварыць з табою шчыра,*
*Бо не жыву я, а лячу*
*Усё жыццё сваё — у вырай…*

**(«Прысніся, мама, бо хачу…»)**

Паказальны ў гэтым плане маналог лірычнага героя ў вершы «Пакаянне», праз які ён просіць прабачэння ў маці і родных:

*А знаеш, мама, сын твой пасівеў,*
*Святлом абліўся*
*бледнатварай поўні…*
*Даруйце, мае родныя, віны*
*Хапае, я магу ў ёй захліпнуцца.*
*…Дамоў вярнуўся,*
*быццам бы з вайны,*
*А мог я, мама, проста не вярнуцца.*

Ад матулі, як лічыць Алесь Жыгуноў, ён пераняў лепшае: чалавекалюбства, шчырасць, дабрыню, чуласць, праўдзівасць, любоў да беларускага слова — той моцны душэўны стрыжань, які дапамог яму не зняверыцца, не зламацца. Адчувальна, што паэт дасюль моцна знітаваны з маці:

*І прыйдзе ў ранішнія сны*
*Мая натомленая мама.*
*І скажа ветла і прачула:*
*— А я і там табой жыву.*
*А я і там цябе пачула.*
*Табе нярадасна, сынок?*
*А мне нярадасна, мне горка,*
*Хоць на мяне глядзіць здалёк*
*Мая даверлівая зорка.*

**(«Прысніцца летнія дажджы…»)**

Натуральна, у біяграфічных паэмах «Хата» (2001) і «Спатканне з Тройцай» (2008) Алесь Жыгуноў зноў вымалёўвае дарагі вобраз. Нягледзячы на тое, што напісаны творы ў розны час, іх аб'ядноўвае адзінства тэматыкі — «малая» радзіма паэта і элегічная настраёвасць. Але нямала ў паэмах і адрозненняў.

Так, «Хата» мае грамадзянскае гучанне. Кампазіцыйнай (і ідэйнай) асаблівасцю паэмы з'яўляецца прыём «кола» — твор пачынаецца і заканчваецца ўспамінамі аўтара пра маці. Роспачна гучыць маналог паэта, калі ён гаворыць пра страту дарагога чалавека. Адчуванне незваротна страчанага шчасця, раптоўнай сіратлівасці доўга не пакідае яго душу:

*Я трымаўся збоку ад народа*
*І глядзеў на маці, як чужы.*
*Цалаваў у лоб яе астылы,*
*А ў душы грымеў гаротны гром,*
*Калі вобраз ласкавы і мілы*
*Засыпалі жоўценькім пяском…*

Падобныя матывы роздуму, жалю, шкадавання перададзеныя і ў паэме «Спатканне з Тройцай», але ў адрозненне ад «Хаты» вобраз маці не выступае асобна, а ўплятаецца ў кантэкст, у прыватнасці, выяўляецца праз дзіцячыя ўспаміны.

Што адметна, Алесь Жыгуноў заўсёды піша пра сваю страту і любоў сціпла, без асаблівага драматызму. Выказаўшыся проста, ён толькі падкрэсліў шчырасць «споведзі» і засведчыў, што для яго галоўнае ў жыцці.

**Людміла ГУЙДА**

# Плач на ўзбярэжжы возера

Калі б Анегін не застрэліў Ленскага, той з'ехаў бы жыць на вёску, да ціхага, нікому не вядомага возера, і там, седзячы ў чаратах, ці ходзячы па гразкай дарозе, ці блукаючы па лесе, складаў бы самотныя вершы пра адзіноту і вераломную Вольгу. Таксама Ленскі мог бы жыць у Пецярбургу і блукаць ужо не сярод маўклівых дрэў, але сярод маўклівых муроў, і тады ён праклінаў бы абыякавы, жорсткі горад і... І, зноў жа, вераломную Вольгу.

Вынікам пакут Ленскага мог бы стаць зборнік вершаў, падобны да кнігі выбранага «Жыві!» Рагнеда Малахоўскага, якая пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Вялікім пралікам было змяшчаць на першай жа старонцы фота паэта і яго біяграфію. Не таму, што гэта быццам бы не прынята. Але таму, што загадзя, яшчэ да таго, як у чытача ўзнік пэўны вобраз аўтара, ён ужо разбураны. Калі б не такая «падказка» на першай старонцы, чытач намаляваў бы для сябе ўласнага Паэта. І хутчэй за ўсё, ён быў бы ўзнёслы, вытанчаны, бледнатвары і чарнавокі, адным словам, пакутнік — вобраз надзвычай прывабны, асабліва для дзяўчат сямнаццаці гадоў.

У такім святле назва зборніка — «Жыві!» — гучыць як заклік. Маўляў, хоць усё навокал блага, трэба і жыць, і пісаць. Ужо ў назвах вершаў — «Цянем затуманенага саду», «Распятае каханне», «Песімістыка», «Мой чорны парасон», «Шчасце паасобку», «Калі хмурнее волкі надвячорак», «Знясілены дождж», «Расчараванне», «Зіма ў дэпрэсіі» і інш. — няцяжка ўчуць мінорную ноту, а побач з «Паланэзам вяртання» відавочна не хапае «Рэквіема».




У астатнім афармленне кнігі атрымалася ўдалым. Па-першае, птушкі на чорных галінах выглядаюць прыгожа самі па сабе, па-другое, яны цудоўна ілюструюць паэтычны настрой героя — як і стылая вада на вокладцы. Вада — галоўная стыхія Рагнеда. Не ведаючы біяграфіі, няцяжка здагадацца, што рос ён, гледзячы на хвалі. Некальки разоў ён узгадвае Нарач, у палове вершаў — хвалі, возера, рэкі і ці не ўва ўсіх творах хоць нейк спасылаецца на родную стыхію: дождж, кроплі, парасон, чоўны і чараты... Нават кроў у яго паўстае не як знак пакуты, а як повязь з прыродай (у адным з вершаў ён так і піша, што перацякаецца «блакітнае неба — у рэкі блакітнай крыві»), ды і каханне ён п'е, прытым — «з зорнага каўша». У крайнім выпадку, калі выхаду да прыроды няма і навокал гарадскія муры, у вершах з'яўляюцца слёзы.

На другім месцы па значнасці і нададзенай увазе — неба, асабліва начное, зорнае. Наш герой так і існуе — паміж вадой і небам, быццам дух хаосу да стварэння зямлі: тая ж бясконцая туга, тая ж беспрасветнасць і самота. І агонь у гэтай паэтычнай сістэме становіцца сімвалам небяспекі, рызыкі, неспакою. Натуральна, ён узнікае якраз тады, калі размова ідзе пра жанчыну: дзе жанчына — там бяда.

Адзіны жаночы вобраз, які не мае дэманічнай афарбоўкі, — беражніца. Чаму — адказ просты: яна народжаная з вады. Да яе паэт звяртаецца па дапамогу: «пахавай назаўсёды гора, / зберажы скарб душы», «натхненне з свайго сусвету / для мяне адшукай», «калі ў сэрцы жыцця маланкі, / вір жыцця супакой» і, урэшце, галоўнае прызнанне: «калі хваля бяжыць залатая, / ачышчаюся я». Яно тым больш цікавае, што традыцыйна ачышчальным лічыцца агонь. Можна б было спісаць пераход гэтай функцыі да вады на ўплыў хрысціянскіх вобразаў, але нават пры наяўнасці анёлаў у вершах Рагнеда лірычны герой — відавочны язычнік.

Р. Малахоўскага называюць паэтам, які «працуе ў рэчышчы класічных літаратурных традыцый». І справа не ў тым, што ён «піша ў рыфму», якая паступова пераходзіць у разрад рудыментаў, але, перадусім, у моцнай сувязі з прыродай. На любы стан душы ў яго знойдзецца адлюстраванне «прыроднае»: сум — дождж, цішыня — дыханне возера і пад. Магчыма, таму ў свой час ён і звярнуўся да кітайскай паэзіі, спрабаваў пісаць у традыцыйных для яе формах, пры гэтым застаючыся беларускім творцам да апошняй нервовай клеткі. Часам, праўда, у паэтычную тканку ўкліньваецца іншародны элемент — напрыклад, «астральныя шляхі», — але іншароднымі яны і застаюцца.

З усіх паэтычных памераў Рагнеду найбольш пасуе трохстопны анапест. Прынамсі, уім думкі набываюць найбольшую яснасць, а радок — лёгкасць. Як толькі радок падаўжаецца, паўстае праблема: чым запоўніць прастору? Праблему гэтую Рагнед вырашае годна, але метафары немінуча становяцца цяжэйшымі, «паўнаводнымі»; яны прыгожыя, але ўжо не такія грацыёзныя. Хочацца, каб верш танцаваў, а ён ідзе мажным размераным крокам. У верлібрах такіх праблем не ўзнікае, і творы такой формы — самыя моцныя ў зборніку.

Паводле прызнання Рагнеда, у кнізе сабрана пяцьдзясят лепшых, на яго думку, твораў, а калі не лепшых, то любімых. Умоўна яны складаюць тры раздзелы: першы прысвечаны каханню, другі — радзіме, трэці — уласна паэзіі. Першы чытаецца з цікаўнасцю і лёгкім спачуваннем герою, маўляў, нічога, заглянe сонца і ў тваё аконца. Другі — з цікаўнасцю і радасцю, бо ты пазнаеш і возера, і чараты, і валуны — адным словам, Беларусь; да таго ж, менавіта ў гэтых вершах паэзія, не разбэўленая туманамі пакут, набывае асаблівую моц. Трэці раздзел чытаецца з цікаўнасцю і ціхім сумам, і ён і падаецца крыху зацягнутым... Але галоўнае вы, напэўна, ужо заўважылі: кніга чытаецца з цікаўнасцю. Можна не прымаць песімістычнае бачанне свету, але свежы вобраз сустрэць заўжды прыемна.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# У вянок Кабзару

Праз некалькі дзён, 9 сакавіка, свет адзначыць 200-годдзе з дня нараджэння вядомага ўкраінскага паэта, мастака, грамадскага дзеяча, заснавальніка новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы Тараса Шаўчэнкі. Яго імя любімае ўсімі ўкраінцамі, яго вершы многія ведаюць на памяць.

Больш за тое, Шаўчэнка аказаў значны ўплыў на развіццё не толькі ўкраінскай літаратуры, але і на творчасць беларускіх пісьменнікаў многіх пакаленняў. Таму не дзіўна, што юбілею класіка прысвячаецца так шмат розных імпрэз — кніжных выстаvак, літаратурных сустрэч, прэзентацый. У іх ліку можна згадаць і Міжнародны «круглы стол» «Т. Р. Шаўчэнка і ўплыў яго творчасці на духоўны свет славянскіх народаў», што прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Арганізатары сустрэчы — Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, Таварыства дружбы «Беларусь — Украіна», Мінскае грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў «Заповіт» і філалагічны факультэт БДУ.

Здавалася б, такое прадстаўнічае мерапрыемства з удзелам многіх вядомых навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў павінна праходзіць у афіцыйнай, стрыманай атмасферы, а ўдзельнікі мусяць выступаць выключна з навуковымі дакладамі. Але хіба можна пра любімага многімі пакаленнямі паэта казаць стрымана і афіцыйна, не цытуючы яго вершаў, не адзначаючы асабістай зацікаўленасці яго творчасцю? Натуральна, не. Нават гледачы ў зале, як песню, «падхоплівалі» знаёмыя радкі з вершаў Т. Шаўчэнкі.

Пасол Украіны ў Беларусі Міхаіл Ежаль ва ўступным слове адзначыў:

— Ёсць такая цікавая статыстыка, што Т. Шаўчэнку па ўсім свеце пастаўлена не менш як 1300 помнікаў. Ніводная гістарычная постаць не ўшанаваная такой вялікай колькасцю! Гэтыя лічбы таксама сведчаць пра маштаб асобы, пра ролю паэта ў развіцці ўкраінскай нацыі.

Як слушна заўважыў мадэратар «круглага стала», кандыдат філалагічных навук Павел Навойчык, у кожнага з удзельнікаў сустрэчы свае асабістыя дачыненні з творчасцю Тараса Шаўчэнкі, кожны мае што дадаць да агульных здабыткаў шаўчэнказнаўства. Кожнае слова Шаўчэнкі ў новых гістарычных абставінах асэнсоўваецца па-новаму, а змена пакаленняў і часоў дае магчымасць зусім іншага прачытання класікі сучасным чытачом. Падчас «круглага стала» з дакладамі выступалі вядомыя навукоўцы, прызнаныя даследчыкі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей Міхась Тычына, Іван Чарота, Жана Шаладонава, Мікалай Трус.

Дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч звярнула ўвагу на ўспрыманне творчасці Т. Шаўчэнкі самым маладым беларускім класікам:



— Сёлета мы адзначаем 100-годдзе напісання Максімам Багдановічам артыкула «Краса і сіла», прысвечанага 100-годдзю Т. Шаўчэнкі. Ён упершыню быў надрукаваны ў часопісе «Украинская жизнь» і стаў першай спробай разгледзець форму паэтычных твораў украінскага паэта. Набыткі М. Багдановіча ў справе літаратурна-крытычнага асэнсавання творчасці Шаўчэнкі сёння ўспрымаюцца як сапраўды наватарскія, яны сталіся тым класічным узорам даследавання, з кампетэнтнасцю і слушнасцю якіх і цяпер лічыцца літаратуразнаўчая навука. Артыкул «Краса і сіла» — першае ў Беларусі даследаванне эстэтыкі паэтычнага зборніка класіка ўкраінскай літаратуры «Кабзар» з улікам украінскай фальклорнай традыцыі. Паводле маладога беларускага даследчыка, стыль паэзіі Т. Шаўчэнкі быў стылем нацыянальна ўкраінскім, а яго творчасць урасла ва ўкраінскую народную паэзію ў некаторых сваіх узорах да поўнай тоеснасці.

Не застаўся без увагі і ўплыў творчасці Тараса Шаўчэнкі на творчасць Янкі Купалы. «Першае знаёмства Купалы з паэзіяй украінскага песняра адбылося яшчэ ў дзяцінстве, — зазначыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч. — А купалаўскія пераклады вершаў Шаўчэнкі з'явіліся ўжо ў першыя гады яго творчай дзейнасці. Яны сталі арганічным працягам арыгінальнай паэзіі Купалы».

Галіна Калюжная, старшыня Мінскага грамадскага аб'яднання украінцаў «Заповіт», распавяла пра адметнасці папулярызацыі творчасці Кабзара і ўкраінскай літаратуры ў цэлым у беларускай сталіцы:

— Тарас Шаўчэнка — апора і аснова ўкраінскай нацыі на ўсіх этапах яе развіцця. Мала хто з вядомых паэтаў быў настолькі любімым народам і такім гнаным уладамі. Яго заслуга перш за ўсё ў тым, што ён упарта ўкладаў у свядомасць людзей ідэі дэмакратызму, паняцце нацыянальнай годнасці, нацыянальнай справядлівасці. Але перасцерагаў ад варожага міжнацыянальнага стаўлення, прапагандаваў узаемаразуменне і ўзаемапавагу, раўнапраўе і дружбу паміж народамі. Грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў «Заповіт» створана ў беларускай сталіцы прыкладна 20 гадоў таму. Для нас важна не забыць, зберагчы родную мову, культуру, гісторыю. Так, пры гарадской бібліятэцы № 20 ужо шмат гадоў працуе аддзел украінскай літаратуры, мы стварылі і пастаянна дзеючую кніжную выстаўку, прысвечаную Кабзару, на базе 20-й бібліятэкі праводзім дні ўкраінскай літаратуры, шаўчэнкаўскія ўрокі. Варта падкрэсліць, што не толькі 200-гадовы юбілей класіка стаў нагодай для арганізацыі імпрэз: мы штогод адзначаем яго народзіны. Тэматычныя вечарыны праходзяць і ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Міжнародны «круглы стол», прысвечаны 200-годдзю Т. Шаўчэнкі, стаў не толькі добрай нагодай нагадаць шырокай грамадскасці пра творчасць украінскага песняра. Падаецца, што для нас, беларусаў, глыбіня і шчырасць любові ўкраінцаў да свайго нацыянальнага класіка — выдатны прыклад, варты пераймання. І справа не ў вялікай колькасці помнікаў ці наяўнасці Нацыянальнага музея класіка, справа ў асабістым паважлівым стаўленні да постаці і спадчыны пачынальнікаў нашай літаратуры. Музеі і помнікі сапраўды «працуюць» і жывуць у сэрцах народа, у яго вернасці запаветам песняроў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Пад знакам сакрэтнасці

Прэзентацыя першага тома серыі кніг «Польшча — Беларусь. Агульная гістарычная спадчына. Даведнік па архіўных матэрыялах 1918 — 1939» прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Выданне з'явілася ў 2013 годзе ў Варшаве. Яго аўтары — беларускія і польскія гісторыкі. Эва Расоўская, Аляксандр Вабішчэвіч, Аляксандр Смалянчук і Анатоль Вялікі аб'ядналіся з мэтай прапанаваць чытачам унікальную і карысную інфармацыю.

Выданне ўтрымлівае звесткі пра дакументы, якія з'яўляліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1918 — 1939 гг. у выніку дзейнасці самых розных польскіх устаноў і арганізацый. Сярод іх — банкі і школы, органы ўлады і паліцыі, турмы і лагеры, суды і пракуратура. Многія з фондаў калісьці былі сакрэтнымі. Але ж парадокс: вядома, што рукапісы не гараць толькі ў Міхаіла Булгакава, таму ўсё, што было напісана на паперы, на тэрыторыі акупіраванай Польшчы бясследна знікала пад стрэламі нямецкіх гармат. Немцаў цікавілі архівы, якія дапамагалі ім у барацьбе з польскай арміяй, а эканамічныя ці культурныя звесткі пра жыццё цывільных спальваліся за непатрэбнасцю. Адкуль тады матэрыялы? Аўтары даведніка высветлілі, што ўнікальныя польскія архівы, якія цудам «выжылі», знаходзяцца сёння на тэрыторыі Беларусі ў Дзяржаўным абласным архіве Брэсцкай вобласці і ў Дзяржаўным абласным архіве Гродзенскай вобласці.

Прэзентацыя стала важнай падзеяй у культурным дыялогу Польшчы і Беларусі. Такую думку выказаў дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі Аляксандр Груша. Яго падтрымаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Лешэк Шэрэпка і дадаў: «Сумесная гісторыя Польшчы і Беларусі пачынаецца ажно ў XIV — XV стагоддзях! Але жыхары суседніх краін, на жаль, не поўнасцю ведаюць сваю мінуўшчыну. Задача дыпламатаў і вучоных — змяніць гэтую сітуацыю. Без ведаў не будзе разумення адзін аднаго».

«Польшча — Беларусь. Агульная гістарычная спадчына. Даведнік па архіўных матэрыялах 1918 — 1939» — толькі першы том у чарзе запланаваных выданняў. У планах аўтараў — уключыць у наступныя працы матэрыялы з фондаў Маладзечна і Мінска, засяродзіць увагу на грамадскім і культурным жыцці нацыянальных меншасцей, спыніцца на газетах і часопісах, якія выдаваліся ў міжваенны перыяд у Вільні.

Адзін з аўтараў выдання, доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі культуры і рэлігіі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Аляксандр Вабішчэвіч паведаміў, што даведнік, які ўжо прэзентаваўся некалькі месяцаў таму ў Торуні, атрымаў шмат водгукаў з далёкага замежжа. Дзіўна, але нават прафесар з Японіі захацеў прыехаць у Беларусь, каб папрацаваць у архівах! «Падчас падрыхтоўкі выдання давялося апрацаваць амаль 336 фондаў. Затое цяпер гэтымі матэрыяламі можа свабодна карыстацца кожны чытач. Кніга ўнікальная тым, што ў ёй сабраная вельмі падрабязная інфармацыя, якая ахоплівае ўсе сферы жыцця Заходняй Беларусі», — адзначыў Аляксандр Вабішчэвіч.

Да імпрэзы супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі выстаўку «Крыніцы па гісторыі Заходняй Беларусі», якая пазнаёміла з грамадска-палітычным і культурным жыццём беларусаў і палякаў. На стэндах былі прадстаўлены перыядычныя выданні, лістоўкі, мемуарная літаратура, кнігі серыі гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», даведнікі па фондах беларускіх архіваў. У ліку самых каштоўных рэчаў — заявы сялян з просьбай дазволіць ужываць беларускую мову ў школах.

Дарэчы, кніга «Польшча — Беларусь. Агульная гістарычная спадчына. Даведнік па архіўных матэрыялах 1918 — 1939 гадоў» спатрэбіцца не толькі вучоным ці настаўнікам, а ўвогуле ўсім, хто шануе мінулае роднай краіны і жадае ведаць свае карані. На жаль, у друкаваным варыянце даведнік існуе толькі на польскай мове, але яго беларускую версію можна лёгка спампаваць з інтэрнэту.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Імя вуліцы

Адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якое выклікала розгалас не толькі ў акадэмічным асяроддзі.

На пасяджэнні абмяркоўвалі папраўкі да Закона «Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў», прычым гэта ўжо не першая спроба ўнесці змены. Першую папраўку тапанімічная камісія адхіліла па зразумелай прычыне: калі б яе прынялі, то назвы геаграфічным аб'ектам можна было даваць не толькі на беларускай мове, але і на рускай. У такім разе мы б займелі карціну надзвычай непрыемную: беларускія гарады «ўпрыгожылі» б вуліцы Жалезнадарожная, Цвяточная, Красівая і да т. п. Ігар Капылоў, новы старшыня тапанімічнай камісіі, які і рабіў даклад, прывёў яскравы прыклад. Да прыняцця вышэйзгаданага Закона ў 2010 годзе назвы даваліся толькі па-беларуску і перакладаліся на рускую: Працоўная — Трудовая. Пасля прыняцця Закона назвы даюцца на беларускай мове і шляхам транслітарацыі перадаюцца на рускую: Працоўная — Працовная.

Вядомы мовазнаўца, член-карэспандэнт АН Беларусі Аляксандр Лукашанец, які рыхтаваў афіцыйную паперу з адмовай прыняцця першай папраўкі, зазначыў: «Новыя папраўкі ўзнікаюць адно таму, што дзяржаўныя служачыя не ведаюць беларускай мовы, а значыць — не адпавядаюць патрабаванням і не могуць займаць свае пасады, бо дзяржслужачы павінен валодаць як рускай, так і беларускай мовамі».

Што ж прапануе Дзяржаўны камітэт па маёмасці, ад імя якога і прапануюцца новыя папраўкі? У новай папраўцы першым пунктам заяўляецца, што назвы геаграфічным аб'ектам могуць давацца толькі на беларускай мове. У наступным жа пункце прапісана: «Правілы і спосабы перадачы найменняў геаграфічных аб'ектаў з беларускай мовы на рускую, **з рускай мовы на беларускую**, а таксама з беларускай і рускай моў на іншыя мовы вызначаецца Дзяржаўным камітэтам па маёмасці Рэспублікі Беларусь». Абурэнне камісіі выклікала вылучаная намі фраза. У выніку, пасля доўгай і бурнай дыскусіі, другі пункт прынялі, выкрэсліўшы супярэчлівае палажэнне.

Прадстаўніца камітэта па маёмасці прызналася, што папраўкі да Закона на гэты момант перададзеныя на разгляд у парламент. Таму да вынесенай рэзалюцыі камісія далучыла просьбу дазволіць ім прысутнічаць на разглядзе паправак да Закона, каб мець магчымасць патлумачыць, што і чаму прымаць нельга.

На пасяджэнні абмяркоўваліся не толькі папраўкі да Закона, але і больш шырокія пытанні. Падрабязней чытайце ў наступным нумары.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*Паралелі*

# Таня Дзюкерс: «Мой дзед быў на вайне»



**У Беларусі дзеці і моладзь досыць шмат ведаюць пра Другую сусветную вайну. Пра яе падрабязна распавядаюць на ўроках гісторыі, ва ўніверсітэцкай праграме выкладаецца спецыяльны курс, ды і айчынныя аўтары ў сваёй творчасці часта звяртаюцца да апісання ваенных падзей. З успрыманнем гэтых старонак нашай мінуўшчыны няма амаль ніякіх цяжкасцей, і калі ў сям'і нехта ваяваў, то пра яго баявыя подзвігі ці проста ўчынкі ў час вайны ўсе ведаюць. Мы прадстаўляем бок ахвяр і абаронцаў, таму такі акцэнт абсалютна лагічны.**

А што адбываецца ў Германіі, у сем'ях, чые дзяды і прадзеды былі на вайне? Яны, такія добрыя ў сучасным жыцці, у маладосці ваявалі, але прадстаўлялі зусім іншы бок — захопнікаў і злачынцаў. Як унукам ставіцца да дзядоў з цёмным мінулым? Як у сям'і наладзіць дыялог паміж прадстаўнікамі розных пакаленняў? Менавіта на гэтыя пытанні ў рамане «**Нябесныя целы**» спрабуе знайсці адказы нямецкая пісьменніца **Таня Дзюкерс**. Кніга была прадстаўлена беларускай публіцы на літаратурных чытаннях, што прайшлі ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску. У гэтым рамане аўтарка распавядае гісторыю некалькіх пакаленняў адной нямецкай сям'і. Пра дзеда, які ў маладосці ваяваў і страціў нагу ў Расіі; пра маці, якая выступае супраць таго, каб дзеці нешта даведваліся пра вайну і дзедавы ўчынкі; пра ўнукаў-блізнят, якія спачатку фантазіруюць, што, магчыма, нагу дзеда з'еў цмок, а потым паступова разблытваюць клубок таямніц сямейнай гісторыі.

Пасля прадстаўлення некалькіх урыўкаў з рамана ў перакладзе на беларускую мову Таня Дзюкерс у час дыскусіі расставіла некаторыя акцэнты адносна аўтарскай задумы і адметнасцей успрымання сваёй кнігі.

## ВАЕННЫ АКЦЭНТ

— У развагах пра вайну прысутнічае эмацыянальная амбівалентнасць. З аднаго боку, унукі засмучаныя падзеямі вайны, а таксама ўчынкамі сваіх бабуль і дзядоў. Але, з іншага боку, у іх моцныя асабістыя стасункі, яны добра ведаюць свайго любага дзядулю ў сям'і, але менавіта цяпер героі кнігі дазнаюцца, што іх дзед рабіў у маладосці. Акцэнт на такой амбівалетнасці — вельмі важны ў рамане. Ёсць яшчэ адзін надзвычай істотны момант: пакаленне дзяцей злачынцаў вельмі канфрантаванае з гэтай тэмай. Дзеці ўдзельнікаў вайны не жадаюць нават згадваць тыя падзеі, не вядуць са сваімі бацькамі гутаркі на гэтую тэму. Унукі ж хочуць проста даведацца больш пра мінулае сваёй сям'і, не імкнучыся нікога асуджаць. Такая пазіцыя цалкам зразумелая: дзеці «пакалення злачынцаў» памятаюць сваіх бацькоў маладымі і здаровымі, якія яшчэ некалькі гадоў таму былі на вайне. Ды і па сутнасці не так шмат мінула з таго страшнага часу. Цягам апошніх гадоў гісторыкі даведаліся шмат новага пра Другую сусветную — дзякуючы менавіта пакаленню ўнукаў, якія не пазбягаюць адкрытых гутарак са сваімі дзядамі.

## АЎТАБІЯГРАФІЧНЫ АКЦЭНТ

— У гэтага рамана ёсць аўтабіяграфічныя карані. Мой дзядуля сапраўды згубіў нагу на вайне. Але не ў Расіі, а ў Югаславіі. Ды пісаць раман у выглядзе дзённіка нецікава. У маіх кнігах у вобразе аднаго героя заўсёды «схавана» шмат людзей. Да прыкладу, дзядуля з рамана не толькі мой сваяк. Яго прататыпамі можна лічыць розных асоб. Так, мой дзед не быў пчаляром, гэтую рысу герой атрымаў ад дзядулі маёй сяброўкі. Я шмат усяго спалучыла ў гэтым рамане. У нашай сям'і, як і ў герояў кнігі, ёсць польскае крыло, але яно прадстаўлена не так, як у рамане. Маёй мэтай была спроба стварыць зборны, калектыўны вобраз: з аднаго боку — удзельнікі вайны, з іншага — іх унукі, якія проста хочуць даведацца праўду пра мінулае сваёй сям'і.

Я вельмі перажывала, калі пісала. Спрабавала для сябе адказаць на пытанні: як шукаць гэтыя сляды мінуўшчыны? Як працуе памяць? Як у сям'і размаўляюць на тэму вайны? Паміраюць апошнія людзі, якія ваявалі. Хутка сведак гэтых падзей не застанецца ўвогуле. Таму я лічу, што цікава ісці па слядах мінуўшчыны ў сваёй сям'і, калі сведкі яшчэ жывуць. Мае дзядуля і бабуля памерлі. Падаецца, цяпер мы назіраем цікавы гістарычны момант: асабістая памяць ператвараецца ў калектыўную. Тое, што перажыў чалавек, становіцца тэмай школьных падручнікаў. Яшчэ адзін момант: дзеянне рамана адбываецца ў Берліне. Гэта горад, дзе паўсюль сустракаеш сляды Другой сусветнай вайны, валадарства нацыстаў, раздзялення Германіі, Халоднай вайны. Міма не пройдзеш...

## АКЦЭНТ НА ЎСПРЫМАННЕ

— Не хачу хваліцца, але кніга была ўспрынята з вялікім інтарэсам. Мой раман — не адзіны сучасны твор, дзе разглядаецца тэма мінулага, тэма Другой сусветнай вайны. Многія маладыя аўтары закранаюць яе ў сваёй творчасці. Што да ўспрымання кнігі публікай, было два пункты гледжання: адны казалі, што я занадта маладая (калі выйшла кніга, мне было крыху больш як 30), у гэтым кірунку варта пераважаць больш сталым аўтарам, а таксама людзям, якія самі былі на вайне. Але прыходзілі і станоўчыя водгукі: кніга не апісвае баявых дзеянняў, за такую сур'ёзную справу я нават не ўзялася б. У рамане вядзецца гаворка пра сучасныя падзеі, закранаюцца сляды мінулага, памяць адной сям'і, я разважаю пра тое, як маё пакаленне расло з такім вялікім ценем. Думаецца, для напісання падобнай кнігі аўтару не абавязкова быць 80-гадовым. Больш за тое, з раманам «Нябесныя целы» мяне часта запрашалі ў Польшчу на літаратурныя чытанні, бо тут шмат расказваецца пра адносіны паміж палякамі і немцамі.

Яшчэ адзін акцэнт кнігі — на тым, як малым распавядаюць пра вайну дома, на занятках у школе. Думаю, што сёння нямецкім дзецям вельмі многа расказваюць пра Трэці рэйх, нацыянал-сацыялізм, Другую сусветную вайну, Халакост. У нашай краіне вядзецца шмат дыскусій пра тое, як гэтую тэму прадстаўляць на ўроках гісторыі. Майму пакаленню нават залішне многа распавядалі пра вайну. Сёння гучаць меркаванні, што трэба звярнуцца да наладжвання асабістых сустрэч, запрашаць былых вязняў і арганізоўваць дыялогі. Менш лічбаў — больш асабістых перажыванняў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Сусвет кроснаў

Напрыканцы мінулага года ў Выдавецкім доме «Беларуская навука» пабачыла свет новае грунтоўнае даследаванне кандыдата мастацтвазнаўства Вольгі Лабачэўскай «Беларускі народны тэкстыль: мастацкія асновы, узаемасувязі, навацыі». Першым і надзвычай значным поспехам выдання можна лічыць перамогу ў адной з намінацый Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі»: даследаванне было прызнана лепшым навукова-папулярным выданнем 2013 года.

— Кніга адметная тым, што яна прысвечана тэкстылю ў цэлым. Раней выходзілі асобныя даследаванні, прысвечаныя беларускім ручнікам, беларускаму народнаму касцюму. А тут пад тэкстылем разумеюцца і мастацкія тканіны абрадавага прызначэння, і традыцыйны касцюм, — распавядае Вольга Лабачэўская. — Нельга асобна вылучыць касцюм, кашулю вышываную, тканую, з арнаментам, ручнік, сказаць, што яны паміж сабой па-мастацку не звязаныя. Каноны іх стварэння і ўпрыгожання заўсёды фарміраваліся і развіваліся ў агульных полікультуры і традыцыі. Як мастацтвазнаўцу мяне цікавілі працэсы, што адбываюцца ў гэтым відзе народнай творчасці: як змяняецца арнамент, колеры, якія тэхнікі з'яўляюцца, якія тэндэнцыі ўплываюць на развіццё ўсіх тканін. Мне было цікава паглядзець, якія працэсы адбываюцца ў развіцці беларускага тэкстылю менавіта ў XX ст., калі імкліва змяняецца сам тып традыцыйнай культуры беларусаў, калі парушаюцца асновы сялянскай традыцыйнай культуры.

Але каб адказаць на пытанне «што змянілася?», даследчыцы напачатку патрэбна было вызначыць, што такое канон, дзякуючы існаванню якога можна казаць пра беларускі стыль. І ўжо зыходзячы з гэтага этнамастацкага канона паспрабаваць зразумець, што ўплывала на развіццё беларускіх мастацкіх тканін, арнаментыкі, колеру, якія новыя рысы з'явіліся ў наш час. Кніга даказвае: змянілася шмат. В. Лабачэўская распавяла, што пачас экспедыцый яна заўважыла некаторыя адметнасці: сёння жанчына ў святочны дзень на пакуці павесіць не бабулін стары бела-чырвоны ручнік з геаметрычным арнаментам, а каляровы, вышыты гладдзю, які ёй больш падабаецца. А ложак будзе засцелены яркім каляровым дыванам ці вышыванай посцілкай з кветкамі.

У аснову даследавання пакладзена фактура, сабраная падчас многіх экспедыцый: уласны вялікі архіў аўтаркі, што складваўся цягам больш як чвэрці стагоддзя, куды ўвайшлі фотаздымкі касцюмаў, тканін, ручнікоў, інтэр'ераў, зробленыя ў розных кутках краіны. Важнай крыніцай матэрыялу сталі музеі, дзе сабраны лепшыя ўзоры народнага тэкстылю — не абавязкова вялікія, рэспубліканскія, ці абласныя. Цікавыя экспанаты захоўваюцца і ў маленькіх школьных музейчыках, раённых краязнаўчых музеях. Адзінкавыя рэчы часам падказвалі даследчыцы новы кірунак пошукаў. Акрамя таго, выкарыстоўваліся беларускія калекцыі, што захоўваюцца ў Літве, Польшчы, Расіі, ва Украіне, а таксама фотаздымкі пачатку XX ст.

— Творчасць вясковых майстрых, чые маці, бабулі, прабабулі таксама былі прallямі, ткачыхамі, звязаная з радавой традыцыяй, сягае сваімі каранямі ў міфы, — разважае Вольга Аляксандраўна. — Бо тканіна, аснова, матэрыял — гэта панацці, што нас злучаюць з пачаткам усведамлення чалавекам свайго месца ў свеце, законаў, па якіх сусвет пабудаваны. Мы самі часам не разумеем, наколькі гэта глыбока: сялянскія кросны — своеасаблівая мадэль светабудовы. Спадзяюся, што кніга падштурхне і маладых даследчыкаў да пошуку новых тэм, прымусіць больш пільна паглядзець на працэсы сучаснага развіцця народнай творчасці. Мастацкі ідэал змяняецца: у пачатку кнігі можна пабачыць шмат фотаздымкаў чырвона-белых выбаў, а ў канцы выдання на выявах — больш яскравых колераў, а замест геаметрычнага з'яўляецца паліхромны кветкавы арнамент.




Сёння абуджаецца цікавасць да рамёстваў. Тканінамі і майстэрствам ткацтва цікавяцца як беларускія, так і замежныя навукоўцы, маладыя дзяўчаты вышываюць сабе строі, ткуць, але за гэтым стаіць не проста майстэрства ткацтва і вышыўкі, але і светапогляд. Таму, як лічыць даследчыца, навучаць рамёствам, аднаўляць іх патрэбна разам з фарміраваннем адметнага светапогляду, разуменнем таго, што «цягнецца» ў культуры за рамёствамі, ручніком, вясельнай кашуляй. Менавіта ў гэтым можа дапамагчы новае выданне.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Толькі беларускае, толькі актуальнае…

У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі прайшоў Тыдзень сучаснай беларускай драматургіі, на працягу якога гледачы змаглі пазнаёміцца з п'есамі маладых айчынных аўтараў. Пра сённяшнюю беларускую драму распавёў акцёр, рэжысёр і кіраўнік Цэнтра беларускай драматургіі Аляксандр Марчанка.



**— Як узнікла ідэя правядзення Тыдня сучаснай беларускай драматургіі?**

— Праект прапанавала рэдактар цэнтра Вікторыя Белякова. Мэта — пазнаёміць гледача з аўтарамі, творчасць якіх не прадстаўлена ў рэпертуары РТБД. На працягу шасці дзён ставіліся спектаклі, «акальцаваныя» двума сцэнічнымі чытаннямі: п'есамі «Бі-Лінгвы» Андрэя Саўчанкі і «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова. Праект назвалі «АмБІвалентнасць». Тут шмат дваістасці: два вечары, два маладыя беларускія драматургі чытаюць свае тэксты ў якасці рэжысёраў. Дзве новыя п'есы, дзве актуальныя тэмы, што закранаюць надзённыя пытанні чалавецтва XXI стагоддзя. Андрэй Саўчанка назірае за тым, як беларуская і руская мовы суіснуюць у штодзённасці і як білінгвізм рэальна ўспрымаецца грамадствам. Андрэй Іваноў разважае над адвечнай праблемай пакаленняў: як знайсці адзіную прастору ўзаемаразумення паміж роднымі людзьмі? Дзве прасторы існавання ў кожнай п'есе: беларускамоўнасць і рускамоўнасць, рэальны і віртуальны свет.

**— Цікава, што драматургі выступаюць рэжысёрамі чытак. Часта такое практыкуеце?**

— Існуе аб'яднанне «Студыя альтэрнатыўнай драмы». Дзмітрый Багаслаўскі, Віктар Красоўскі, Сяргей Анцэлевіч, якія туды ўваходзяць, па адукацыі акцёры, рэжысёры і толькі адносна нядаўна пачалі ствараць п'есы. Яны чытаюць тэксты, таму мы разумеем, што не першыя ў такой справе. Зноў жа, Андрэй Саўчанка — рэжысёр. Перад намі хутчэй яго новы, драматургічны, досвед. Першапачаткова ён таксама спрабаваў аддаць свой матэрыял іншаму рэжысёру, але гэтыя спробы яго не ўразілі: здалося, што сам можа знайсці больш нюансаў і акцэнтаў у матэрыяле. Што да Андрэя Іванова, то ў яго ўзнікла жаданне прачытаць сваю п'есу, мы пайшлі насустрач. Істотна, што акцёры Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, разумеючы, што Андрэй Іваноў не рэжысёр, праявілі павагу і цярпенне.

**— Спектаклі — гэта традыцыйна, да іх гледачы ўжо прызвычаіліся. А чыткі? Як успрымаюцца яны?**

— Па вялікім рахунку, гэта былі не зусім чыткі, а эскізы спектакляў. І ў гледача гэта выклікала эмацыянальны водгук. Шмат хто пасля заставаўся на абмеркаванні. Былі і моманты крытыкі. Выдатна! Бо драматургі маюць магчымасць дапісаць гісторыі, сюжэты і персанажаў, што толькі на карысць матэрыялу.

**— Плануеце ў будучым рабіць чыткі не толькі ў РТБД, а і на выязных сесіях?**

— Перыядычна чыткі выходзяць за межы тэатра. Той жа Андрэй Саўчанка практыкаваў такое. Пакуль праекта пад канкрэтнае месца мы не рабілі, але ўжо ёсць задума пачытаць сучасную драматургію ў Доме-музеі І з'езда РСДРП.

**— Ведаю, што праводзяцца пэўныя «лабараторыі», падчас якіх драматургі пішуць п'есы. Там поўная творчая свабода? Ці драматургічная тэматыка падбіраецца?**

— Структура лабараторыі выглядае так: у першы дзень і аўтары, і рэжысёры агучваюць кола цікавых тэм, якія хвалююць іх больш за ўсё. Менавіта на гэтай падставе яны аб'ядноўваюцца ў працоўныя пары. Мы не прапаноўваем тэмы кшталту «Радзіма» ці «Надвор'е». Ёсць свабода творчасці, на працягу тыдня мы рухаемся прыкладна ў адным тэмпе і рэчышчы, увасабляем ідэі. Цяпер паступіла прапанова арганізаваць лабараторыю-сустрэчу з драматургамі іншых краін. Калі ўсё атрымаецца, то наступная лабараторыя будзе праходзіць ужо ў такім фармаце.

**— Наколькі актуальная сучасная беларуская драматургія?**

— Праблемы не высмоктваюцца з пальца. Возьмем п'есу «Гэта ўсё яна». У сюжэце маці замест жывой гутаркі з сынам вырашае стварыць фэйкавы акаўнт у сецібе для наладжвання адносін. Да чаго гэта можа прывесці? Пагадзіцеся, актуальнае пытанне! П'еса Віктара Красоўскага «Пару дзён і ўсё», якая ўздымае тэму сумлення ў няпростых развагах пра смерць бацькоў... Гэта заўсёды актуальна!

**— Ці можна сёння казаць пра разнастайнасць беларускай драматургіі?**

—Так. Акрамя п'ес класікаў у беларускай драме існуюць тэксты радыкальнага Паўла Пражко, дзякуючы якому беларуская драматургія вядома ва ўсім свеце. Вельмі глыбокія філасофскія разважанні ў Дзмітрыя Багаслаўскага ў п'есе «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў». Ёсць тэксты Мікалая Рудкоўскага, якія стылістычна вельмі адрозніваюцца ад роздумаў іншых аўтараў. Зусім новая з'ява — фантасмагарычныя п'есы Юліі Шаўчук, у якіх, як мне здаецца, парушаны ўсе законы тэатра. Пра адзінства часу, месца і дзеяння казаць наогул не даводзіцца.

**— Калі, на ваш погляд, узнікла новая беларуская драматургія? І ці можна наогул казаць пра такое паняцце?**

— Разглядаць развіццё беларускай драмы, выкарыстоўваючы схему «малады драматург, рэжысёр — новая драматургія», — памылкова. Лічу, трэба звяртаць увагу не на ўзроставыя паказчыкі. Аўтараў можна аб'яднаць па прыкмеце іх тэкстаапісання: разгляд сучаснасці, разважанні на вострa актуальныя тэмы. Што да часу ўзнікнення, то сёння жывым класікам лічыцца Аляксей Дудараў. Далей я б казаў пра пэўны прагал, і толькі пасля ўзнікла новая беларуская драматургія.

**— Ці практыкуюць пастаноўку п'ес па творах маладых драматургаў з РТБД іншыя тэатры?**

— Гэта, упэўнены, асабістая справа кожнага тэатра і яго мастацкага кіраўніка. Мы ўсе чакаем пастаноўку Кацярыны Аверкавай «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» у Купалаўскім тэатры. Гэта цікавы прэцэдэнт, калі ў двух сталічных тэатрах будуць ісці два спектаклі па адной п'есе. У спектаклі РТБД узрост герояў крыху зніжаны: трупа маладзейшая, існуюць некаторыя тэхнічныя перапрацоўкі. А ў Купалаўскім, як я разумею, размеркаванне будзе адпавядаць напісанаму ў п'есе.

**— Тыдні сучаснай беларускай драматургіі яшчэ будуць арганізоўвацца? Ці плануюцца нейкія конкурсы паміж драматургамі?**

— Пакуль мы не вельмі задаволены ўвагай гледачоў, таму не ўпэўнены, што мерапрыемства будзе існаваць менавіта ў такім выглядзе. Нягледзячы на тое, што пра кожны спектакль мы вельмі падрабязна распавядалі, цікавасць гледачоў была не надта вялікая. Сорак тысяч рублёў за квіток на сцэнічнае чытанне аказваюцца бар'ерам на шляху да сучаснай беларускай драматургіі.

Што да конкурсаў, па сутнасці, іх можна праводзіць, але... размеркаванне месцаў — гэта мала. Неабходна зацікавіць саміх драматургаў — альбо фінансавымі ўзнагародамі, альбо магчымасцю пастаноўкі п'есы. Для гэтага патрэбны сродкі, таму сёння Цэнтр беларускай драматургіі ў працэсе пошуку партнёраў.

**Паліна ПЛАТАВА**

# На паветраных шарах

У гарадской мастацкай галерэі Леаніда Шчамялёва адкрылася выстаўка «Менск: зніклае і захаванае». Някідкую прыгажосць нашай сталіцы вельмі тонка адчуў беларускі мастак Сяргей Стоцкі. Творца прадставіў малюнкі старых і адначасова чароўных мясцін горада, якія сёння мы ўжо не можам пабачыць. «Знікаючы горад»… Так ахарактарызавала экспазіцыю куратар выстаўкі Крысціна Лядская.



*«Ціхае жыццё», 2001.*



*«Восень», 2004.*

Беларускі мастак, былы настаўнік С. Стоцкага Леанід Дзягілеў адзначыў: «Мы не павінны ўспрымаць гэту выстаўку проста як фіксацыю адыходзячых матываў гарадскога краявіду. Гэта перш за ўсё жывапіс. У кожнай рабоце мы бачым кавалачак сэрца аўтара. У малюнках ён праяўляе пачуцці, асаблівасці ўспрымання рэчаіснасці. Звяртаюць на сябе ўвагу і добрыя кампазіцыі работ. Мастак прыйшоў да тонкага, каляровага, светланоснага жывапісу. Кожны малюнак — шматпластавы. Ёсць тут і глыбокія цені, і прыгожыя тонкія адценні заходзячага сонца».

А мастацтвазнаўца Таццяна Бембель ахарактарызавала жывапіс С. Стоцкага наступным чынам: «Гэта не проста дакументальна-выяўленчая фіксацыя гарадскога пейзажу. У работах варта ўбачыць святло, насычаны колер, вялікую колькасць паветра».

Сам Сяргей Стоцкі называе свой стыль відазмененым рэалізмам. Насамрэч больш моцна рэалізм адчуваецца ў самой ідэі. Выкананне ж увабрала ў сябе рысы і сюррэалізму, і экспрэсіянізму. Тонкімі лініямі, мяккімі колерамі мастак перадае сваё бачанне горада. Менск атрымліваецца чароўным і казачным. Першае, праз форму намаляваных аб'ектаў. Так, контуры дрэў, будынкаў, зямлі страчваюць жыццёвую прамалінейнасць. Аўтар малюе людзей не дзеля таго, каб «асвяжыць» урбаністычны пейзаж, — для глыбокіх сюжэтаў. Напрыклад, на карціне «У тупіку» (1999) — гісторыя вялікага кахання, якая цягне на цэлы раман.

А яшчэ фантастычнасць Менска выяўляецца ў нерэальнасці колераў. Неба ў мастака і змрочна-жоўтае, як Пецярбург Ф. Дастаеўскага, і лагодна-ружовае, як дзіцячыя сны, і песімістычна-шэрае, як трызненне вар'ята.

Незвычайная дэталь: дзенідзе на малюнках Сяргея Стоцкага можна заўважыць паветраныя шары. Паводле творцы, калі на іх глядзіш, узнікае адчуванне, што ты падымаешся над горадам і назіраеш за ім зверху. А можа, пераносішся ў мінулае, каб пасля лепей уявіць сучаснасць?..

**Паліна ПЛАТАВА**

# Поспех акадэмічнага літаратуразнаўства

Падвёдзены вынікі конкурсу на атрыманне прэмій Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за ўклад у рашэнне буйной навуковай ці навукова-практычнай праблемы (пастанова Прэзідыума НАН Беларусі ад 23 снежня 2013 года № 40). У галіне сацыяльных і гуманітарных навук адну з дзвюх прэмій атрымалі літаратуразнаўцы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі: Міхась Мушынскі, Мікола Мікуліч і Яўген Гарадніцкі.

Доктар філалагічных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік М. І. Мушынскі, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык аддзела ўзаемасувязей літаратур М. У. Мікуліч і кандыдат філалагічных навук, дацэнт, вядучы навуковы супрацоўнік Я. А. Гарадніцкі ўганараваныя прэміяй за цыкл работ «Сістэма мастацкіх напрамкаў, стылявых плыняў і творчых індывідуальнасцяў беларускай літаратуры XX стагоддзя ў кантэксце праблем сацыяльна-палітычнага развіцця і культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння». Праца ўяўляе сабой канцэптуальную распрацоўку важнейшых гісторыка-тэарэтычных аспектаў беларускай літаратуры новага часу — надзвычай важнага і адказнага перыяду, калі адбывалася вызначэнне базісных метадалагічных і светапоглядных прынцыпаў нацыянальнага слоўнага мастацтва, фарміраванне якасна новых ідэйна-эстэтычных падыходаў у асэнсаванні і вобразным увасабленні рэчаіснасці.



*М. У. Мікуліч.*

**«М. У. Мікуліч увёў у літаратуразнаўчы ўжытак багаты фактаграфічны матэрыял па гісторыі літаратуры Заходняй Беларусі 1920-х — 1930-х гадоў, апублікаваўшы апошнім часам шэраг брашур пра найбольш значныя постаці тагачаснага літаратурнага працэсу (М. Васілька, К. Сваяка, П. Сеўрука, М. Машару) і абагульняючую манаграфію «Паэзія Заходняй Беларусі (1921 — 1939)».**

Работы, уключаныя ў цыкл, накіраваны на раскрыццё велізарнага духоўна-творчага патэнцыялу, праяўленага айчыннай літаратурай XX стагоддзя, на падсумаванне багатага ідэйна-мастацкага досведу, набытага ва ўмовах паскоранага развіцця і ўдасканалення.

Праца актуальная перадусім таму, што ў ёй падводзяцца вынікі здзейсненага беларускай літаратурай за ўсё мінулае стагоддзе, а гэта дае магчымасць вывесці заканамернасці гісторыка-літаратурнага працэсу, вызначыць дамінантныя тэндэнцыі і напрамкі мастацкага развіцця, выявіць спосабы засваення сучаснымі творцамі



*М. І. Мушынскі.*

**«Аўтары — Міхась Мушынскі, Мікалай Мікуліч і Яўген Гарадніцкі — падводзяць вынікі здзейсненага ў беларускай літаратуры за ўсё мінулае стагоддзе.**

і чытацкай аўдыторыяй бясцэннага досведу літаратурнай класікі.

У работах цыкла даследуюцца ключавыя аспекты станаўлення і развіцця нацыянальнай літаратуры, а таксама важнейшыя складнікі творчага працэсу: мастацкі напрамак, стыль, творчая індывідуальнасць пісьменніка, прычым усё гэта разглядаецца не ізалявана, а ва ўзаемадзеянні.

Пераважная ўвага надаецца творам класічнай беларускай літаратуры — мастацкай спадчыне Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Міхася Зарэцкага, а таксама іх прадаўжальнікаў у другой палове XX ст. — Івана Мележа, Івана Шамякіна, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і інш.

На аснове даследавання выводзіцца агульнае паняцце пра літаратурную класіку як мастацкі феномен, які аказвае вызначальнае ўздзеянне на ход літаратурнага развіцця, з'яўляецца важнейшым фактарам фарміравання ідэалагічных прыярытэтаў і духоўна-маральных каштоўнасцей грамадства. Творчасць класікаў нацыянальнай літаратуры разглядаецца як дамінанта мастацкага развіцця, якая прадвызначыла ўсе асноўныя напрамкі і тэндэнцыі, характэрныя для сучаснага стану беларускай літаратуры.

Канцэптуальны падыход даследчыкаў выяўляецца ў сцвярджэнні важнай ідэі: ва ўмовах постмадэрнісцкай пераацэнкі мастацкіх і духоўных каштоўнасцей, калі значэнне літаратурных традыцый даволі часта падвяргаецца сумненню, актуалізацыя класічнай літаратурнай спадчыны з'яўляецца надзвычай неабходнай справай, якой не існуе альтэрнатывы.

Вось асноўныя моманты распрацаванай М. І. Мушынскім, М. У. Мікулічам і Я. А. Гарадніцкім канцэпцыі сучаснай інтэрпрэтацыі класічнай спадчыны.

**1**

Вельмі істотная роля тэксталагічнага этапу даследавання твораў буйнейшых прадстаўнікоў нацыянальнай літаратуры. Тэксталогія дае важны матэрыял для асэнсавання творчага працэсу ў яго цэласнай спалучанасці індывідуальна-аўтарскіх мастацкіх установак і асаблівасцей іх тэкстуальнага ўвасаблення. Менавіта такі сістэмны падыход, пры якім улічваюцца ўсе складнікі творчага працэсу, прапаноўваецца аўтарамі цыкла прац у якасці найбольш актуальнага і запатрабаванага ў сучасных умовах развіцця літаратуразнаўчай навукі.

Падчас падрыхтоўкі акадэмічных збораў твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага і інш. тэкстолагі пад навуковым кіраўніцтвам М. І. Мушынскага выканалі вялікі аб'ём даследаванняў у галіне беларускай тэксталогіі, каб дакладней і паўней вызначыць асноўны корпус тэкстаў класікаў літаратуры, устанавіць аўтарскі варыянт твораў і высветліць гісторыі іх напісання. Выдадзена абагульняючая работа М. І. Мушынскага «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа» (2007), якая ў гэтай сферы мае вялікую практычную каштоўнасць.

**2**

Другі істотны аспект канцэптуальнага падыходу — сістэматызацыя і ўсебаковы аналіз шматстайных дадзеных гісторыка-літаратурнага характару, якія ў сваёй сукупнасці даюць абагульненае ўяўленне пра гісторыю пэўнага мастацкага напрамку, таксама — пра станаўленне аўтарска-індывідуальнай стылёвай адметнасці або стылю, уласцівага для асобнага перыяду развіцця літаратуры. Фарміраванне мастацкага светапогляду пісьменніка і яго творчай манеры справядліва звязваецца аўтарамі перадусім з рэальнымі жыццёвымі абставінамі, у якіх яму давадзілася жыць і працаваць. Вялікае значэнне надаецца жыццёваму акружэнню класікаў літаратуры.

Так, у апошнія гады М. І. Мушынскі стаў арганізатарам шэрагу навуковых канферэнцый у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, скіраваных на практычнае вырашэнне праблемы «пісьменнік і яго акружэнне». Гісторыка-літаратурны напрамак аналізу праблемы знайшоў адлюстраванне ў яго фундаментальнай манаграфіі «Мае Каласавіны: з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа» (2010) і грунтоўнай працы «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа» (2012) — паспяховай спробе стварэння навуковай біяграфіі народнага паэта Беларусі.

Буйным укладам у распрацоўку праблем сучаснага коласазнаўства з'яўляецца ўступны артыкул М. І. Мушынскага «Свайму часу і вечнасці» да найноўшага Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах, які ўяўляе сабой падсумаванне апошніх дасягненняў у гэтай галіне літаратуразнаўства і прадстаўляе творчасць класіка беларускай літаратуры з пункту гледжання шматбаковага і цэласнага ахопу ўсіх складнікаў творчага працэсу.

Канечне, уважліва вывучалася творчасць іншых беларускіх класікаў. Вынікі даследаванняў агучваліся на шматлікіх навуковых канферэнцыях, прысвечаных Янку Купалу, Якубу Коласу, М. Багдановічу, М. Гарэцкаму, Максіму Танку і інш. М. І. Мушынскі і Я. А. Гарадніцкі ўваходзяць у склад аўтараў калектыўнай манаграфіі «Янка Купала і Якуб Колас і дзяржаўна-культурнае будаўніцтва» (2007). У сваю чаргу, Я. А. Гарадніцкі і М. У. Мікуліч з'яўляюцца суаўтарамі калектыўнай манаграфіі «Сучаснае беларускае літаратуразнаўства: сістэма каштоўнасцей і прыярытэтаў» (2007). Да стагадовага юбілею М. Танка М. У. Мікуліч выдаў фундаментальную манаграфію «Максім Танк. Талент, заручаны з небам» (2012), у якой аналізуе з пазіцый сучаснага літаратуразнаўства жыццёвы шлях і творчасць паэта. Даследчык таксама шматбакова аналізуе паэзію Максіма Танка ў прадмове «Паэтычны каўчэг Максіма Танка» да Збору твораў пісьменніка (2010). У другім, абноўленым выданні манаграфічнай працы М. І. Мушынскага «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі» (2013), выдадзенай да 120-годдзя Максіма Гарэцкага, творчы шлях пісьменніка разглядаецца ў шырокім культурна-грамадскім і літаратурным кантэксце. Я. А. Гарадніцкі напісаў раздзел «Аркадзь Куляшоў» у вучэбным дапаможніку «Беларуская літаратура» для вучняў 10 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання (2009). У гэтым жа падручніку змешчаны раздзелы «Максім Гарэцкі» і «Міхась Зарэцкі», напісаныя М. І. Мушынскім.



*Я. А. Гарадніцкі.*

**«Даследчыкі сцвярджаюць: ва ўмовах постмадэрнісцкай пераацэнкі мастацкіх і духоўных каштоўнасцей, калі значэнне літаратурных традыцый даволі часта падвяргаецца сумненню, актуалізацыя класічнай літаратурнай спадчыны з'яўляецца надзвычай неабходнай справай, якой не існуе альтэрнатывы.**

М. У. Мікуліч увёў у літаратуразнаўчы ўжытак багаты фактаграфічны матэрыял па гісторыі літаратуры Заходняй Беларусі 1920-х — 1930-х гадоў, апублікаваўшы апошнім часам шэраг брашур пра найбольш значныя постаці тагачаснага літаратурнага працэсу (М. Васілька, К. Сваяка, П. Сеўрука, М. Машару) і абагульняючую манаграфію «Паэзія Заходняй Беларусі (1921 — 1939)» (2010), у якой ідэйна-эстэтычная адметнасць творчасці заходнебеларускіх паэтаў разглядаецца з пункту гледжання сістэмнага аналізу.

**3**

Аўтары распрацавалі навуковую методыку, паводле якой сувязь паміж аспектамі нацыянальнага літаратурна-мастацкага працэсу даследуецца на ўзроўні паэтыкі літаратурнага твора. Літаратура вывучаецца як складаная сістэма ўзаемаабумоўленых фактараў, у якой іманентныя мастацкія структурныя заканамернасці карэлююцца з шырокім колам з'яў аб'ектыўнай рэальнасці. Адзначаная ўзаемасувязь шматбакова разглядаецца ў манаграфіях Я. А. Гарадніцкага «Мастацкі свет беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2005) і «Паэтыка беларускай літаратуры XX стагоддзя: Суб'ектна-аб'ектныя суадносіны» (2010).

Цыкл работ М. І. Мушынскага, М. У. Мікуліча і Я. А. Гарадніцкага — гэта канцэптуальна-цэласнае адзінства, якое раскрывае высокі ўзровень асэнсавання асноўных заканамернасцей сучаснага літаратурнага працэсу Беларусі і той ролі, якую адыгрывае ў ім мастацкі досвед класікі.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт БДПУ імя Максіма Танка**

# …І абаронца Багдановіча

Імя Юльяна Пшыркова добра вядомае тым, хто з увагай ставіцца да мастацкага слова. Аўтар школьных падручнікаў, фундаментальных навуковых літаратуразнаўчых прац, адзін з карыфеяў навукі пра нацыянальную літаратуру. З гэтай «жывой легендай», выдатным даследчыкам гісторыі беларускай літаратуры мне пашанцавала працаваць разам (хоць, на жаль, нядоўга) у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР напрыканцы 1970-х гадоў. У час, які потым назвалі «застойным», але ў які беларускае літаратуразнаўства (зрэшты, як і сама літаратура) якраз дасягнула высокага ўзроўню развіцця. Юльян Сяргеевіч быў сярод тых, хто гэтаму ўздыму садзейнічаў і прадвызначаў яго. Прыемна было сустракацца з ім на калідорах акадэмічнай установы, слухаць яго выступленні на вучоных саветах. Гэта быў чалавек з пазітыўнай энергетыкай, прыязным стаўленнем да думак і меркаванняў калег. Навуковая спадчына Ю. С. Пшыркова багатая і шматгранная. Спынімся на дзвюх яго адметных працах.



*Юльян Пшыркоў на возеры Нарач, 1960 г. Фота зроблена Міхасём Лыньковым.*



*Юльян Пшыркоў з Алегам Лойкам у рабочым кабінеце даследчыка, 1979 г.*

## ШТО БЫЛО ДА НАШАЙ ПРОЗЫ?

«Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)» — так называецца адна з грунтоўных манаграфій Ю. С. Пшыркова, выдадзеная Акадэміяй у 1960 г. Кніга гэта выклікае павышаную ўвагу — як створаная ў надзвычай цікавы і плённы перыяд айчыннай гісторыі, час гэтак званай «адлігі». Менавіта тады мастацкая літаратура, а разам з ёю і літаратуразнаўства, літаратурная крытыка, публіцыстыка зрабілі ва ўмовах змянення грамадска-палітычнага, ідэалагічнага і маральнага клімату ў краіне небывалы рывок да спасціжэння эстэтычнага значэння культуры ў жыцці чалавека.

Найбольшы зрух літаратуразнаўчай думкі выявіўся ў тым, што літаратура пачала ўспрымацца не як ілюстраванне дагматызаваных у сваёй нязменнасці ідэй і палажэнняў, а як дзейсны інструмент пазнання рэальнага жыцця. Ю. С. Пшыркоў у сваёй манаграфіі цвёрда стаяў на такіх пазіцыях, імкнучыся раскрыць чалавеказнаўчы, гуманістычны патэнцыял слоўнага мастацтва.

Аб'ектыўны падыход да з'яў літаратурнага жыцця, гэта значыць, з улікам усёй шматстайнасці літпрацэсу, і выразнае выяўленне пазіцыі даследчыка і грамадзяніна — якасці, у вялікай ступені характэрныя для Ю. С. Пшыркова. Яны раскрыліся не толькі ў гэтай навуковай працы, але і ў многіх іншых. Самае ж галоўнае — гэта вялікая любоў і паважнае стаўленне да роднай літаратуры.

У многіх напрамках літаратуразнаўчай дзейнасці Ю. С. Пшыркоў быў першаадкрывальнікам, а для такой першапраходніцкай працы патрабуецца раскрыццё ўсяго творчага патэнцыялу даследчыка. Патрэбна засяроджанасць на галоўным, а разам з тым — уважлівае стаўленне да ўсіх фактаў, падрабязнасцей, якія маглі б дапоўніць агульную карціну літаратурнага працэсу.

Менавіта такі падыход мы бачым у яго «Беларускай савецкай прозе», манаграфіі, прысвечанай надзвычай важнаму перыяду ў станаўленні айчыннай літаратуры — 1920-м — пачатку 1930-х гадоў. Хоць галоўным аб'ектам даследчыцкай увагі з'яўляюцца дасягненні беларускіх празаікаў менавіта гэтага перыяду, на пачатку манаграфіі не абыдзены ўвагай і папярэдні час, калі, як вядома, адбывалася паступовае фарміраванне творчых прынцыпаў беларускай прозы і выяўляліся першыя прыкметы нацыянальнага мастацкага стылю.

XIX стагоддзе не было багатым на празаічныя творы, але Юльян Сяргеевіч вымалёўваў даволі цэласную і сістэмную карціну зараджэння празаічнай традыцыі ў беларускай літаратуры. Стварэнню цэласнага ўяўлення садзейнічае абраны даследчыкам падыход, пры якім улічваецца фактар шматмоўнасці тагачаснага літаратурнага жыцця Беларусі. Ю. С. Пшыркоў адным з першых звярнуў увагу на яшчэ не даследаваны корпус празаічных тэкстаў, у якім, няхай сабе і ў іншамоўным выражэнні, знайшлі ўвасабленне рэаліі беларускага жыцця. У кантэкст даследавання ўводзіліся рускамоўныя творы П. М. Шпілеўскага, Я. Р. Брайцава, Д. Е. Лапо, польскамоўныя — А. Грозы, В. Г. Рэута і інш.

Звяртаючыся да апавяданняў Д. Е. Лапо, выдадзеных у 1895 г. у Казані, даследчык адзначаў у першую чаргу, што іх аўтар з прыхільнасцю ставіцца да выведзеных герояў — беларускіх сялян. Апавяданні Д. Е. Лапо прыцягваюць увагу найперш «цікавымі бытавымі і пейзажнымі замалёўкамі», этнаграфічна дакладным узнаўленнем сялянскага побыту. «Аднак, — прадаўжаў аўтар, — нельга не ўбачыць у іх і пастаноўкі важных грамадскіх праблем».

Думаецца, што пісьменнікі кшталту Д. Е. Лапо, якія разглядаліся літаратуразнаўцам як папярэднікі нацыянальнай прозы, яшчэ і сёння чакаюць уважлівага прачытання.

Аўтар манаграфіі ўважліва ставіўся да кожнай, нават не вельмі значнай, праявы літаратурнага працэсу. Л. Гвозд, Бронісь, Стары Верабей, А. Язмен, Д. Пранук і г. д. — названыя творцы ўяўлялі цікавасць для даследчыка не столькі сваімі недасканалымі ў мастацкіх адносінах творамі, колькі феноменам масавай далучанасці да літаратурнай творчасці, сімвалічнай адзнакай значных зрухаў у культуратворчасці таго часу.

Галоўная ж увага ў манаграфіі надаецца самым значным дасягненням беларускай прозы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў: аўтар прасочвае ўвесь шлях, які за гэты перыяд прайшла беларуская проза — ад бытавога жарту і імпрэсіяністычнай замалёўкі да выдатных раманаў, у эпічнай форме якіх увасобіўся час крутых перамен.

## SELF-MADE MAN

Не самае галоўнае месца ў навуковым наробку Ю. С. Пшыркова займае невялікая па аб'ёме кніжка «А. Е. Богданович», выдадзеная на рускай мове ў акадэмічным выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1966 годзе, — нарыс пра беларускага педагога, грамадскага дзеяча і вучонага, бацьку Максіма Багдановіча. І ўсё ж спынюся менавіта на гэтай працы, яна стала першым манаграфічным даследаваннем, прытым грунтоўным і падрабязным (як і ўсё, што належыць пяру Ю. С. Пшыркова), прысвечаным Адаму Ягоравічу і ўвогуле чалавеку, які шмат зрабіў для Беларусі.

Выбар постаці зусім не выпадковы. Што прыцягвала да яе даследчыка? Перш за ўсё, напэўна, тое, што А. Я. Багдановіч быў неардынарнай асобай, чалавекам, які «сам зрабіў сябе» (па-англійску *self-made man*), выйшаўшы «з гушчы народнай», з сацыяльных нізоў да святла асветы. Пра такіх, як А. Я. Багдановіч, сказана на самым пачатку манаграфіі: «Мінулае народа — гэта не толькі своеасаблівя непаўторныя помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, вялікія збудаванні дойлідства, але перш за ўсё гісторыя вялікіх і малых падзей, летапіс яго слаўных і гераічных здзяйсненняў, памяць пра людзей, якія аддалі сваё жыццё справе праслаўлення і ўзвелічэння роднай краіны».

Сапраўды, людзі — найбольшая каштоўнасць гісторыі. Людзі, якія гэтую гісторыю і робяць. Ю. С. Пшыркоў пералічвае многія славутыя імёны Беларусі, пачынаючы Францыскам Скарынам. У га195ровы шэраг уключае і А. Я. Багдановіча. Піша наступнае: «Ён належаў да ліку тых светлых асоб, памяць пра якіх надоўга захоўваецца ў нашчадках». Цяжка ўтрымацца і не сказаць тое ж пра самога Юльяна Сяргеевіча: светлая, абаяльная асоба, шчыры працаўнік, руплівец, памяць пра яго, безумоўна, будзе доўгай і ўдзячнай.

Ю. С. Пшыркоў вылучае дзве асноўныя сферы, у якіх праявіў сябе герой яго нарыса: рэвалюцыйна-прапагандысцкая, асветніцкая дзейнасць, удзел у народніцкім руху, а таксама педагагічная, а затым навуковая праца. Натуральна, гэтыя сферы перасякаліся. Аўтар паказвае фарміраванне светапогляду А. Я. Багдановіча, які меў магчымасць з самага маленства бачыць, у якіх невыносна цяжкіх умовах сацыяльнага і нацыянальнага ўціску даводзілася існаваць беларускаму народу. Несці прыгнечаным святло асветы — у гэтым, на думку даследчыка, А. Я. Багдановіч бачыў сваё грамадзянскае і жыццёвае прызванне. Таму пераход ад рэвалюцыйна-асветніцкай, народніцкай дзейнасці да навуковай працы быў натуральным і азначаў выяўленне тых самых пераканнняў у іншай сферы дзейнасці.

Ю. С. Пшыркоў падрабязна спыняецца на працы А. Я. Багдановіча як вучонага-самавука, глыбокага даследчыка беларускага фальклору і этнаграфіі. Аб'ектыўная ацэнка манаграфіі «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (Гродна, 1895) мае вельмі вялікае значэнне для сапраўднага разумення ўкладу падзвіжніка ў беларускую гуманітарную навуку. Нават і сёння даволі распаўсюджана меркаванне, што ў гэтай працы А. Я. Багдановіч прынізіў узровень развіцця народнай самасвядомасці. Ю. С. Пшыркоў доказна і пераканаўча паказвае, што гэта не адпавядае сапраўднасці. Даследчык, на яго думку, імкнуўся аб'ектыўна раскрыць глыбінныя сацыяльна-гістарычныя прычыны таго стану, у якім на той час знаходзіўся беларускі народ, і погляд яго быў якраз абумоўлены надзеяй, што гэта сітуацыя ў далейшым зменіцца да лепшага.

Значнае месца ў кнізе Ю. С. Пшыркова займае разгляд фундаментальнай працы А. Я. Багдановіча «Язык земли», якая, на вялікі жаль, да гэтага часу не надрукавана. Аўтар спыняецца на драматычнай гісторыі спроб яе выдання ў 1930-я гады. Абапіраючыся на сведчанні аўтарытэтных спецыялістаў, Юльян Сяргеевіч піша пра арыгінальнасць і навуковую значнасць распрацаванай у манаграфіі канцэпцыі, незвычайнае багацце прааналізаванага матэрыялу. Ён справядліва лічыць «Язык земли» сапраўдным подзвігам. Таксама звяртаецца ўвага на каштоўнасць пакінутых А. Я. Багдановічам успамінаў пра сына Максіма, свайго блізкага сябра Максіма Горкага, беларускі народніцкі рэвалюцыйны рух і г. д.

Пра Юльяна Сяргеевіча Пшыркова — вучонага і чалавека — таксама можна і трэба пісаць кнігі. Ён таго варты.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# Гісторыя ў вобразах

**Выстаўка «Мелодыя стагоддзяў», прысвечаная 60-годдзю мастака Аляксея Панцюка-Жукоўскага, адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыю складае каля паўсотні работ жывапісца самых розных перыядаў творчасці.**

Наведвальнікі змогуць убачыць і 20 новых твораў: параўнаць іх з больш раннімі. Прасачыць за развіццём мастацкага светапогляду на працягу сарака гадоў плённай працы. Сам Аляксей Андрэевіч сцвярджае, што гэтая выстаўка — яго думкі, пачуцці і адносіны як мастака да свайго народа і краіны, бацькоў і малой радзімы.

Перавагу ў творчасці А. Панцюк-Жукоўскі аддае рэалістычнасці. Лічыць, што рэалістычнае мастацтва — гісторыя ў мастацкіх вобразах. Таму ў Нацыянальным гістарычным музеі творца імкнуўся сабраць работы, якія адлюстроўваюць наша гістарычнае мінулае.

Тэма бацькаўшчыны — у нацюрмортах «Мой родны кут», «Нацюрморт Зямлі»... У карцінах «Бабіна лета. Бульба», «Сенакосная пара», «Ля бабулінага куфра» мастак выказвае адносіны да вясковага жыцця. Разважанні пра мінулае і будучае краіны — ў трыптыху «На скрыжаванні стагоддзяў», «Мелодыя стагоддзяў», «Ля матчынага парога». Усведамленне хрысціянства, чалавека і бога — у работах «Лёс», «Дыялог», «Здрадніцтва» і інш.

Працуючы выкладчыкам жывапісу ў гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка, сваёй галоўнай задачай Аляксей Андрэевіч бачыць выхаванне ў будучых мастакоў павагі да Радзімы і яе культурных каштоўнасцей.

Аляксей Панцюк-Жукоўскі — беларускі мастак, які працуе ў розных жанрах станковага жывапісу: нацюрморт, пейзаж, партрэт і інш. Яго творы знаходзяцца ў зборах Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі, Міністэрства культуры Расіі, а таксама ў прыватных калекцыях.

**Таццяна ШЫМУК**



*«Мелодыя стагоддзяў», 2011 г.*

# Дызайнеры казкі



*Валерый Славук «Зімовае паляванне», 1993 г.*




*Мікалай Байрачны «Пан Падкаморый», 2009 г.*

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі працуе выстаўка станковай графікі Валерыя Славука і кабінетнай скульптуры Мікалая Байрачнага.

Валерый Славук — беларускі мастак, ілюстратар, які працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі. Ён вядомы сярод айчынных і замежных мастакоў як «Беларускі Дзюрэр». Работы майстра — сапраўдны «дапаможнік» для вывучэння беларускага фальклору. Вучань айчыннага графіка Васіля Шаранговіча. Шырокавядомыя ілюстрацыі В. Славука да беларускіх народных казак: «Удовін сын», «Піліпка-сынок», «Аленка», да кніг «Айвенга» В. Скота, «Чорны млын» Ю. Брэзана, «Шляхціц Завальня» Я. Баршчэўскага і мноства іншых.

З выдумкай і выдатным гумарам, аддаючы перавагу дробным дэталям, Мікалай Байрачны ператварае звычайную рэч у цацку. Прафесіяналізм творцы праяўляецца і ў вывучэнні старажытных кніг з гравюрамі, каб зрабіць пэўныя асаблівасці і знайсці патрэбны фасон чаравікаў са срэбнымі падкоўкамі і атласнымі банцікамі. Яго выключныя творы не проста існуюць у інтэр'еры, а прымушаюць падпарадкоўвацца ўсе астатнія прадметы. Акрамя кабінетнай скульптуры Мікалай Байрачны разам з жонкай Аленай займаецца стварэннем аўтарскай зброі і лялек. Аўтар бронзавага скрыпача і вяланчэліста у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. У суаўтарстве з Уладзімірам Цэслерам стварыў помнік тургенеўскай Муму ў французскім горадзе Анфлёр.

Кожны твор Валерыя Славука і Мікалая Байрачнага — казачнае падарожжа, куды можа купіць білет не толькі дзіця, але і дарослы, які не губляе здольнасці фантазіраваць і верыць у цуды.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Балет Фарсайта на сцэне Вялікага

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь і знакаміты амерыканскі харэограф Уільям Фарсайт заключылі дамову аб пастаноўцы аднаго з яго балетаў на мінскай сцэне. Асістэнт мэтра, балетмайстар Ноа Д. Гелбер правёў у беларускай сталіцы майстар-клас для артыстаў балетнай трупы па стылі Фарсайта.

Ноа Д. Гелбер нарадзіўся ў Нью-Ёрку. З ранняга ўзросту займаўся харэаграфіяй, спевамі і драматычным мастацтвам. З адзінаццаці гадоў навучаўся ў Школе амерыканскага балета. Студэнтам неаднаразова браў удзел у спектаклях трупы *New York City Ballet*. Вучыўся таксама ў Вышэйшай школе выканальніцкіх мастацтваў. Быў пастаянным запрошаным прэм'ерам трупы *American Ballet Company*, удзельнічаў у нью-ёркскай пастаноўцы мюзікла «Вестсайдская гісторыя» Л. Бернстайна.

У 17 гадоў Ноа Д. Гелбер пераехаў у Еўропу і прадоўжыў балетную кар'еру ў Каралеўскім балеце Фландрыі (Антвэрпэн, Бельгія), дзе на працягу трох гадоў з'яўляўся салістам. У якасці запрошанага прэм'ера танцаваў таксама ў розных трупах ЗША і Мексікі. Затым па запрашэнні Уільяма Фарсайта трапіў у трупу Франкфурцкага балета. За восем гадоў працы выканаў вялікую частку рэпертуару трупы. Неаднаразова браў удзел у міжнародных гала-канцэртах, выконваючы сольныя нумары, пастаўленыя Фарсайтам адмыслова для яго. Паколькі Ноа Гелбер выдатна знаёмы са складанымі тэхнікамі імправізацыі, якія выкарыстоўвае Уільям Фарсайт, то менавіта ён быў абраны для іх дэманстрацыі ў запісе на DVD: «Уільям Фарсайт: тэхналогіі імправізацыі» (1999). Таксама мэтр нярэдка апрашае Гелбера ў свае пастаноўкі ў якасці спевака. У Еўропе песні Ноа Д. Гелбера былі выдадзеныя на падвойным CD.

Ноа Д. Гелбер рэгулярна выступае з майстар-класамі ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы. Як асістэнт Уільяма Фарсайта адрэпеціраваў і паставіў балеты настаўніка больш чым у 25 буйных балетных трупах свету.

Пасля майстар-класа, дадзенага ў Вялікім тэатры Беларусі для балетнай трупы, Ноа Д. Гелбер адзначыў, што ў яго ўжо ёсць задума, які балет будзе найбольш прыдатны для беларускай трупы. Амерыканскі балетмайстар убачыў, што беларускія танцоўшчыкі з цікавасцю і адказнасцю ставяцца да новай пастаноўкі.

Харэаграфія У. Фарсайта прынцыпова адрозніваецца ад класічнай балетнай школы: трэба выдатна валодаць целам, надаваць увагу не паставе, а руху.

Пытанне пра пачатак працы над балетам будзе абмяркоўвацца з Уільямам Фарсайтам. Пакуль можна казаць толькі, што графік Ноа Д. Гелбера цалкам распісаны да сярэдзіны 2015 года.

**Таццяна ШЫМУК**



ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2547.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 06.03.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1028.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14010